# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (662) ГОД XIII 3 ЛІСТАПАДА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## ЭКСКУРСІЯ Ў МІНСК

У сувязі з набліжаючайся 50-тай гадавінай БССР, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства наладзіла для сваіх актывістаў экскурсію ў сталіцу Беларусі. Група экскурсантаў БГКТ налічвала 23 асобы і прабывала ў Мінску з 10 да 15 кастрычніка г.г.

Экскурсія была надзвычай плённай. Нашы актывісты пазнаёміліся з беларускай сталіцай і адбылі шэраг цікавых і карысных сустрэч.

Вялікае ўражанне зрабіў на актывістах БГКТ Мінскі камвольны камбінат (адзін з буйнейшых у Савецкім Саюзе) і яго культурныя ўстановы.

У Дзяржаўным музеі БССР актывісты БГКТ пазнаёміліся з гісторыяй беларускай зямлі, а ў Музеі Якуба Коласа — з жыццём аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры.

Цікавай была сустрэча ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. У ёй прынялі ўдзел вядомыя беларускія пісьменнікі Янка Брыль, Піліп Пестрак, Іван Мележ, Мікола Ткачоў, Алесь Бажко, Леанід Прокша, Вячэслаў Адамчык, Еўдакія Лось, Барыс Сачанка, Анатоль Вярцінскі і інш. На ёй, між іншым, гаварылася і аб «Ніве», якую тут добра ведаюць.

Незабыўнай была таксама сустрэча з капэлай Рыгора Шырмы. Слаўны беларускі хор зачараваў нашых актывістаў лірызмам народнай песні, сярод якіх былі і песні з Беласточчыны.

У Беларускім таварыстве дружбы з зарубежнымі краінамі актывісты БГКТ падзякавалі кіраўніцтву гэтага таварыства за дагэтуляшнюю дапамогу (асабліва за фотаздымкі і кніжкі), і абмяняліся думкамі адносна далейшага супрацоўніцтва. Выступілі тут таксама актывісты Беларуска-польскага таварыства дружбы, якія расказалі аб сваіх кантактах з нашай краінай і яе людзьмі. Пасля сустрэчы актывісты БГКТ агледзелі новыя беларускія дакументальныя фільмы.

Прыемныя ўражанні вынеслі нашы актывісты і з прыгожага Палацу спорту, дзе былі на выступленні Ленінградскага балету на лёдзе.

Апрача гэтых агульных сустрэч, група членаў літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа» правяла вельмі карысныя спатканні ў рэдакцыі «Полымя» і выдавецтве «Беларусь» (тут, між іншым, рыхтуецца зборнік «белавежцаў»).

Усюды нашых актывістаў прымалі сардэчна, усюды адчувалі яны братняе сэрца. Пачуцці дружбы і братэрства з асаблівай непасрэднасцю праявіліся на мілай развітальнай вечарыне, якую наладзіла для нашых актывістаў рэдакцыя «Голас Радзімы».

Гэтыя пачуцці і ўражанні, вынесеныя з пабыўкі ў беларускай сталіцы, несумненна будуць спрыяць шырэйшаму асвятленню багатага жыцця беларускага народа сярод нашага насельніцтва, будуць спрыяць далейшаму ўмацоўванню польска-савецкай дружбы. (гв)



1 лістапада па ўсёй краіне на магілах памершых зазіхацяць свечкі. Гэта свята своеасаблівае — свята памершых. Асабліва многа свечак і кветак панясем на магілы тых, хто загінуў за вызваленне нашай зямлі ад фашысцкіх захопнікаў і за пабудову сацыялістычнага ладу. У гэты дзень ушануем іх памяць.

Шматлікімі магіламі салдат, партызан і цывільнага насельніцтва засеяна Беластоцкая зямля. Сярод іх вылучаецца брацкая магіла сялян з Райска ў Бельскім павеце. З нагоды свята памершых гарцэры мясцовай школы кожны год арганізуюць тут касцёр, складаюць кветкі і нясуць урачыстую варту.

На здымку: ля брацкай магілы ў Райску. Фота: А. Карпюк




## СЭРЦА САЛДАТА

Паклалі салдата ў магілу
Без слёз і без рокату труб,
Адно жалудок пасадзілі,
І ўзняўся тут велічны дуб.

Хто гляне — стаіць заварожаны:
Як дрэва ўзнімаюць гады!
А праўду сказаць усім можа
Ён сам толькі, дуб малады.

Нярэдка парой веснавою
Крычыць ён, адзеты ў расу:
— Я дужы таму, што з сабою
Салдацкую дужасць нясу.

Калісьці магутнай рукою
Салдат ажывіў мае дні:
Праз сэрца сваё
пад зямлёю
Мае прапусціў карані.

Кастусь Кірэенка



Актывісты БГКТ у гасцях у беларускіх пісьменнікаў. Першы злева сакратар Саюза беларускіх пісьменнікаў Іван Мележ, пяты злева Піліп Пестрак, першы справа — Янка Брыль.

ЛЮДЗІ І ЧЫНЫ

# БЕЛЬСКІЯ МІЛЬЁНЫ

Вартасць рознага тыпу прац, зрэалізаваных у гэтым годзе ў рамках працы грамадскім чынам, дасягае ўжо да дваццаці мільёнаў злотых. Сума — прызнацца трэба — немалая як на павет без большых цэнтраў з рабочым класам. Сведчыць яна найлепш аб грамадскім заангажаванні насельніцтва Бельшчыны. Некаторыя прадпрыемствы ў гэтым годзе па некалькі разоў прымалі прадукцыйныя абавязацельствы і абавязацельствы адносна прац грамадскім чынам. Так, напрыклад, калектыў Бельскага будаўнічага прадпрыемства пастанавіў у гонар V з'езда партыі папоўніць датагачасныя прадукцыйныя абавязацельствы новымі. Вартасць ранейшых абавязацельстваў дасягае сумы 750 тысяч злотых. Згодна з абавязацельствамі ў гонар V з'езда калектыў Будаўнічага прадпрыемства выканае свой гадавы план да 10 снежня, а гэтым самым дасць дадатковую прадукцыю на суму 2 мільёны злотых.

Прадукцыйныя абавязацельствы рэалізуюцца аднак не толькі ў горадзе, але і ў паасобных вёсках павета. Так, напрыклад, жыхары вёсак Кальніца і Рыбалы пастанавілі ў гонар V з'езда партыі разбудаваць грамадскім чынам школы ў сваіх мясцовасцях. У Кальніцы разбудова школы ўжо закончана, у Рыбалах — яшчэ трывае; будзе аднак закончана да канца гэтага года.

Вялікай галіной грамадскай актыўнасці сялян былі і астаюцца далей працы пры пабудове дарог. На Бельшчыне асаблівай актыўнасцю ў дарожных работах адзначаюцца сяляне з грамадскіх радаў Андрыянкі і Орля. Возьмем хаця б для прыкладу сялян з вёсак Рэдуты і Крывяцічы. Вясною былі тут прыняты абавязацельствы адносна дарожных работ. Абавязацельствы былі выкананы ўжо ў месяцы ліпені. У жніўні сяляне гэтых вёсак прынялі новыя абавязацельствы ў гонар V з'езда партыі. У выніку іх рэалізацыі была выканана работа на агульную суму 20 тысяч злотых. Агулам, за апошні час сяляне Бельшчыны выканалі на дарогах грамадскім чынам працы на агульную суму 1.550.000 злотых.

Як бачым, сяляне сваю грамадскую актыўнасць, ідэйнае заангажаванне, якое выяўляецца ў падтрымцы важных палітычных падзей інтэнсіўнай грамадскай працай, цесна спалучаюць з будовай карысных для ўсяе вёскі аб'ектаў. Датычыць гэта не толькі будовы дарог і школ. Выконваючы свае перадз'ездаўскія абавязацельствы, сяляне Войшкаў будуюць супрацьпажарны басейн, сяляне з Бранска ўзяліся за будову пажарніцкай рамізы і злеўні малака, у многіх вёсках будуюцца спартыўныя пляцоўкі, агарожы кругом школ, розныя агульнапатрэбныя гаспадарчыя будынкі.

Найбольш прыемным у прадз'ездаўскай кампаніі фактам з'яўляецца тое, што ў рэалізацыю прац грамадскім чынам уключылася бельская моладзь. Члены Саюза сацыялістычнай моладзі ў Бельску яшчэ ў красавіку арганізавалі г.зв. «Нядзелю чынаў», у час якой была выканана праца на агульную суму 45 тысяч злотых. Падобныя акцыі адбываліся ў верасні і кастрычніку.

Не адстае ў працах грамадскім чынам і сялянская моладзь Бельшчыны. У акцыі пад назвай «Вясна чынаў» прыняло ўдзел каля 80 працэнтаў членаў Саюза сялянскай моладзі. Выкананыя ў час гэтай акцыі працы дасягнулі сумы 450 тысяч злотых. Летам ЗМВ разгарнуў сярод сялянскай моладзі іншую акцыю, пад назвай «Кожны колас на вагу золата». У акцыі гэтай асаблівай актыўнасцю адзначалася моладзь з Аўгустова, Парцава, Кнаразоў, Кнарыдаў. У рэалізацыю прац уключылася таксама школьная моладзь. прымаючы ўдзел у лесанасаджэнні, упарадкаванні школьных пляцовак і іншых грамадска карысных працах.

Усе слаі і ўсе асяроддзі Бельшчыны актыўна ўключыліся ў агульную плынь павышанай тэмпературы грамадскага і палітычнага жыцця краіны.

У. Паўлючук

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### «САЮЗ — 3»

26 кастрычніка г.г. у Савецкім Саюзе запушчан новы касмічны карабель, на барту якога знаходзіцца лётчык-касманаўт палкоўнік **Георгій Берагавой.** Калі аддаем нумар да друку, касмічны карабель і касманаўт выконваюць накрэсленыя праграмай заданні. Між іншым «Саюз-3» два разы наблізіўся да запушчанага перад ім **«Саюза-2»,** які лётае без чалавека на барту. Касмічны карабель «Саюз-3» акружвае Зямлю на працягу 88,6 мінут.

Палкоўнік Г. Берагавой нарадзіўся на Украіне ў гарняцкім горадзе Генацеве. Ад юнацкіх год цікавіўся авіяцыяй, будучы членам аэраклуба. Берагавой з'яўляецца гвардыі палкоўнікам і служыць у радах авіяцыі ўжо 30 год. У час вайны быў ён ва ўдарных аддзяленнях авіяцыі. Палкоўнік Г. Берагавой закончыў Авіяцыйную акадэмію ім. Ю. Гагарына. Зараз мае 47 год, жанаты, мае сына і дачку, а жонка — настаўніца.

### 50-ГОДДЗЕ ЧЭХАСЛАВАЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

28 кастрычніка г.г. насельніцтва Чэхаславакіі вельмі ўрачыста адзначала 50-ю гадавіну пракламавання незалежнай чэхаславацкай дзяржавы. У гэты ж дзень чэхаславацкі парламент прыняў новы канстытуцыйны закон аб федэратыўным ладзе ў Чэхаславакіі і закон аб нацыянальных меншасцях.

### ШТО Ў ААН?

Што можа прынесці XXIII сесія Генеральнай Асамблеі? — такое пытанне зараз на вуснах многіх людзей. Журналісцкае асяроддзе пры ААН мяркуе, што найбольш адказу на гэтае пытанне давала прамова Грамыкі і высунутыя ў гэтай прамове прапановы па раззбраенню («Ніва» № 41 ад 13.X.г.г.). Мяркуецца, што некаторыя з прапаноў будуць прадметам працы сесіі.

Апрача таго можна меркаваць, што наступіць далейшы прагрэс у развіцці міжнароднага супрацоўніцтва з мэтай дапамогі развіваючымся краінам. Трэба спадзявацца, што XXIII сесія зацвердзіць некалькі міжнародных канвенцый, а сярод іх апрацаваную па ініцыятыве Польшчы канвенцыю аб непратэрміноўванні ваенных злачынстваў.

Урэшце трэба спадзявацца новых крокаў у галіне развязкі напружання на Блізкім Усходзе. Кансультацыі на гэтую тэму тайныя і нікому з журналістаў не ўдалося здабыць на гэтую тэму аўтарытэтнай інфармацыі.

### ВНА...

... — ветнамскае агенцтва перадае: нацыянальна-вызваленчыя сілы Паўднёвага В'етнама на працягу 8 месяцаў г.г. забілі, паранілі і ўзялі ў палон каля 500 тыс. салдат ворага, у тым ліку 180 тыс. амерыканцаў. Патрыёты знішчылі таксама 790 самалётаў, 3 тыс. ваенных машын, 855 складаў амуніцыі і інш. А.К.

## БССР

### СТАТЫСТЫЧНАЕ

Цэнтральнае Статыстычнае Упраўленне Беларускай ССР апублікавала даныя аб выніках выканання Дзяржаўнага плана прамысловасцю Беларусі за дзевяць месяцаў гэтага года.

Прырост прамысловай вытворчасці ў параўнанні з дзевяццю месяцамі мінулага года склаў 12 працэнтаў. Выпуск прадукцыі па асобных галінах прамысловасці павялічыўся: электраэнергетыка на 13 працэнтаў, паліўная прамысловасць на 28 працэнтаў, хімічная і нафтахімічная прамысловасць на 19 працэнтаў, машынабудаванне і металаапрацоўка на 15 працэнтаў, харчовая прамысловасць на 8 працэнтаў і г.д.

### КЛІМЕНКІ

Беларускае Тэлеграфнае Агенцтва паведамляе, што адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, на якім заслухана даклад старшыні Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта **М. Кліменкі** аб рабоце мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных вобласці па выкананню сваіх рашэнняў і пастаноў вышэйстаячых органаў.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР адзначыў, што мясцовыя Саветы Гомельскай вобласці паўней пачалі выкарыстоўваць свае паўнамоцтвы, больш канкрэтна вырашаць пытанні гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва, больш удзяляць увагі арганізатарскай рабоце па выкананню сваіх рашэнняў і пастаноў вышэйстаячых органаў.

### КАСМАНАЎТАЎ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ратыфікаваў пагадненне аб выратаванні касманаўтаў, вяртанні касманаўтаў і вяртанні аб'ектаў, запушчаных у касмічную прастору, падпісанае ад імя Беларускай ССР 14 мая 1968 года.

Прэзідыум ратыфікаваў таксама канвенцыю, якая засноўвае Сусветную арганізацыю інтэлектуальнай уласнасці, падпісаную ад імя Беларускай ССР 16 лістапада 1967 года.

### БАЖКО

Апублікаваны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб узнагароджанні **Алеся Бажко** Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР — за плённую работу ў галіне беларускай савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння.

**Алесь Бажко** з'яўляецца вядомым беларускім пісьменнікам. Зараз працуе ён на пасадзе намесніка галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і Мастацтва».

### МІНІСТР

**В. Шамгін,** міністр мясной і малочнай прамысловасці Беларускай ССР апублікаваў на старонках «Звязды» артыкул — «Для людзей».

«Да рэвалюцыі харчовай прамысловасці ў Беларусі не было , — сцвярджае міністр. — ...За паўстагоддзе мясная і малочная прамысловасць рэспублікі пераўтварылася ...у буйную механізаваную галіну народнай гаспадаркі». (ся)

## ПОЛЬШЧА

### ТАВ. У. ГАМУЛКА

На перадз'ездаўскай партыйнай канферэнцыі ў Варшаве з прамовай выступіў I сакратар партыі таварыш Уладзіслаў Гамулка. Прыпамінаючы прыведзеныя на канферэнцыі лікі, якія паказваюць развіццё варшаўскай партыйнай арганізацыі, прамоўца сцвердзіў, што масавае ўступленне ў рады партыі сведчыць аб даверы працоўных мас да партыі і яе палітыкі. Адначасова хуткі ўзрост партыйных радоў ставіць перад партыяй вялікія заданні ў галіне партыйнай адукацыі і ідэйна-выхаваўчай дзейнасці. У далейшай частцы свайго выступлення тав. У. Гамулка абшырна прааналізаваў істоту пралетарскага інтэрнацыяналізму на прыкладзе марксісцкага, партыйнага падыходу да нацыянальных праблем.

**«У партыі нашай, — заявіў прамоўца, — нельга ацэньваць людзей паводле іх нацыянальнага паходжання. Такі падыход быў бы надзвычай шкодны, супярэчны з інтарэсамі партыі, накіроўваючы яе на неўласцівую, фальшывую дарогу. Ідэалогія нашай партыі з'яўляецца марксісцка-ленінскай ідэалогіяй, не нацыяналістычнай, не сацыял-дэмакратычнай, не дробнабуржуазнай. Ацэньваць людзей трэба толькі паводле таго, што сабою прадстаўляюць, якія іх погляды, якія іх адносіны да генеральнай лініі партыі і як працуюць над яе рэалізацыяй».**

На заканчэнне Уладзіслаў Гамулка прааналізаваў значэнне і ролю крытыкі ва ўнутрыпартыйным жыцці.

### ТАВ. Ю. ЦЫРАНКЕВІЧ

На ваяводскай партыйнай канферэнцыі ў Кракаве з прамовай выступіў прэм'ер Юзэф Цыранкевіч. Прамоўца сканцэнтраваўся на асноўных праблемах сучаснага міжнароднага палажэння, на рэваншысцкіх імкненнях заходнегерманскага мілітарызму. Звярнуў ён перад усім увагу на факт, што Заходняя Германія зноў стала галоўным ініцыятарам халоднаваенных дзеянняў.

Кранаючы падзеі ў Чэхаславакіі, тав. Ю. Цыранкевіч падкрэсліў вялікае значэнне падпісання дагавору ў справе часовай пабыўкі савецкіх войск на тэрыторыі Чэхаславакіі для бяспекі ўсіх сацыялістычных краін. Гаворачы аб падраздзяленнях Народнага Войска Польскага, якія вяртаюцца з Чэхаславакіі, прамоўца сцвердзіў, што польскія салдаты з гонарам выканалі свой інтэрнацыянальны абавязак. Ю. Цыранкевіч выразіў надзею, што, кіруючыся ідэалогіяй марксізма-ленінізма і прынцыпамі пралетарскага інтэрнацыяналізму, Польшча і Чэхаславакія перамогуць усе, выкліканыя варожымі сіламі, цяжкасці і далей будуць развіваць узаемную дружбу для дабра сваіх краін і для дабра справы сацыялізма.

На заканчэнне тав. Ю. Цыранкевіч падкрэсліў вялікае значэнне ўмацавання кіруючай ролі партыі ў нашай краіне, якое адбылося ў час перадз'ездаўскай кампаніі. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### НАРАДА ПЕРАДАВІКОЎ

У Беластоцкім Доме тэхніка адбылася ў суботу 26 кастрычніка г.г. ваяводская нарада прадстаўнікоў рабочых завадскіх калектываў, прадстаўнікоў брыгад сацыялістычнай працы і ўдарнікаў сацыялістычнага спаборніцтва. З прамовай да прысутных выступіў сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Аляксандр Младзяноўскі. Ён высока ацаніў ахвярнасць і стойкасць грамадскасці Беластоцкага ваяводства, што праявілася ў даз'ездаўскіх чынах і абавязацельствах. У час нарады некалькім брыгадам з розных прадпрыемстваў Беласточчыны прысвоена званне **«Брыгады сацыялістычнай працы».** Прысутныя аднагалосна прынялі рэзалюцыю, у якой выяўляюць сваю поўную падтрымку палітыкі партыі і яе кіраўніцтва на чале з Уладзіславам Гамулкам. Адначасова заклікаюць яны працоўных Беласточчыны станавіцца на прадукцыйную з'ездаўскую вахту.

### ЮБІЛЕЙ ФАБРЫКІ

Беластоцкая фабрыка жалезных прылад 26 кастрычніка ўрачыста адзначыла свой юбілей — 20-ую гадавіну існавання. У юбілейных урачыстасцях прынялі ўдзел: міністр машыннай прамысловасці Януш Грынкевіч, старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку Стэфан Жмійка, сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Сяргей Рубчэўскі і іншыя прадстаўнікі цэнтральных і ваяводскіх улад. **Свой юбілей калектыў фабрыкі адзначыў урачыстым замураваннем акта заснавання новага філіяльнага прадпрыемства, пабудову якога распачалі ўжо ў Бельску Падляшскім.** Для горада Бельска гэтая падзея мае вялікае значэнне.

Затым у зале прафсаюзаў у Беластоку адбылося ўрачыстае юбілейнае пасяджэнне. Дырэктар фабрыкі Зыгмунт Ружыцкі расказаў аб гісторыі фабрыкі, а міністр Януш Грынкевіч заявіў, што прадукцыя Беластоцкай фабрыкі жалезных прылад адзначаецца высокай якасцю і таму шмат яе вырабаў ідзе на экспарт. З нагоды юбілею Кавалерскія Крыжы Ордэна Адраджэння Польшчы атрымалі: галоўны інжынер фабрыкі Вацлаў Чэмброўскі, слёсар Пётр Астасевіч і майстар Мечыслаў Венецкі. 8 чалавек атрымала Залатыя Крыжы Заслугі, а 3 — Бронзавыя Крыжы Заслугі.

### XVIII СЕСІЯ ВРН

У Беластоку адбылася XVIII сесія Ваяводскай рады нарадовай. Прадстаўнікі грамадзян Беластоцкага ваяводства — радныя ВРН — заслухалі справаздачу аб працы свайго Прэзідыума за час ад апошняй сесіі, а затым разглядалі праблемы сельскай гаспадаркі Высокамазавецкага павета. Абмеркавалі яны таксама працу грамадскіх рад, вызначаючы асноўныя напрамкі намаганняў для яе паляпшэння. (вр)




**Niedziela, 3.XI.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: „Produkcja mięsa wołowego". 9.40 „Przypominamy, radzimy". 9.50 PKF. 10.00 „Cafe Rose" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.10 „Meksyk 68" („Medale i detale"). 12.00 Dziennik. 12.10 „Bawcie się z nami" — amatorskie zespoły artystyczne przed kamerami. 12.50 „W starym kinie". 13.50 „Przemiany". 14.20 „Polacy na frontach II Wojny Światowej" — film. 14.40 Dla dzieci. 15.10 „Piórkiem i węglem". 15.30 „Portrety" — Leon Kruczkowski. 16.20 „Ukochany kraj, umiłowany kraj" — teleturniej (finał). 17.20 „Turbina" — rep. film. 17.35 „Dwoje" — film radz. 18.10 „Szablą odbierzemy" — rep film. 18.40 Recital piosenkarski Jacques Hustina. 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Wojenka, wojenka" — film fab. fr. 21.35 „Niedziela Sportowa". 21.55 „Dean Martin przedstawia" — pr. filmowy.

**Poniedziałek, 4.XI.**

15.35 Program dnia. 15.40 i 22.15 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.15 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.30 „Olimpijskie obrachunki czyli silni, silniejsi, najsilniejsi" („Medale i detale"). 17.55 „Kino Krótkich Filmów". 18.30 „Eureka". 19.00 „Ich wielka przygoda" — rep. film. („Dzień powszedni Polski"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. Z. Skowroński: „Notes". 21.20 „Pejzaże". 21.50 Dziennik.

**Wtorek, 5.XI.**

9.00 Dla szkół (kl. II lic.) Język polski: A. Mickiewicz — „Dziady" („Dzieje dramatu"). 9.40 „Kamo — znany osobiście" — film fab. radz. 11.25 Przerwa. 12.30 i 15.05 Przysposobienie Rolnicze: „Dojenie ręczne i mechaniczne". 13.05 Przerwa. 15.00 Program dnia. 15.40 i 23.15 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 TV Kurier Warszawski. 18.00 „Socjalistyczna Rewolucja w Rosji" — film TV radz. 18.20 „Po szóstej". 19.00 „Melioranci" rep. film. („Dzień powszedni Polski"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda Piosenki". 20.35 „Poligon". 21.05 „Kamo — znany osobiście" — film fab. radz. 22.50 Dziennik.

**Środa, 6.XI.**

9.20 „Czarne skrzydła"— film fab. pol. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: „Maszyny budowlane". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie: „Przemysł w bieżącej pięciolatce". 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Matematyka w szkole" — „Figury wypukłe, rozcinanie płaszczyzny". 15.40 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.20 „Port w Gdyni" — film pol. 17.40 Wszechnica TV. „Polski Sezam". 18.10 „Muzyka tamtych dni". 18.40 „Zaczęło się w Lublinie". 19.05 „Nieproszeni goście" — rep. film. („Dzień powszedni Polski"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Czarne skrzydła" — film fab. pol. 21.40 Światowid". 22.10 PKF. 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 7.XI.**

9.00 Dla szkół (kl. V) Język polski: „Jan Matejko". 9.30 „Na frontach wojny domowej" — film dok. radz. 10.40 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: „Leśmian — Staff — Tuwim" („Poezja"). 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.00 „TV Kurier Lubelski". 18.15 I Ogólnopolski Festiwal Pieśni Zaangażowanej (transmisja fragmentu Festiwalu z Sali ZDK Huty „Kościuszko" w Chorzowie). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Ambasadora ZSRR w Polsce, Awierkija Aristowa. 20.20 „Krajobrazy 1968". 20.55 „Ostatnia szansa" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.55 Wszechnica TV. 22.25 Dziennik.

**Piątek, 8.XI.**

10.00 „Ostatnia szansa" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.55 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: „Odbiornik radiowy". 13.15 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.45 Dziennik. 16.55 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.10 „TV Kurier Mazowiecki". 17.25 „Na kartach historii". 17.55 „Telekram". 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.35 Gra zespół Jerzego Miliana z udz. solistów. 18.50 „Krakowskie zegary" — rep. film. („Dzień powszedni Polski"). 19.20 „Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 „Horyzonty". 20.35 Teatr TV. W. Sobko: „Ojcowie". 22.05 Dziennik.

**Sobota, 9.XI.**

9.55 „Weselne dzwony" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: „Jamochłony". 12.25 Przerwa. 15.20 Program dnia. 15.25 TV Kurs Rolniczy. „Opas cieląt na rzeź". 16.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci" — „Bieg na przełaj". 16.10 „Program Tygodnia". 16.30 Dziennik. 16.40 „Na frontach wojny domowej" — film dok. radz. 17.45 Teatr Młodego Widza: A. Rymkiewicz — „Lotniejsza od ptaka". 18.45 „Konstruktorzy" — rep. film. („Dzień powszedni Polski"). 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 „Dobranoc". 19.30 „Monitor". 20.10 Felieton literacki. 20.25 „Weselne dzwony" — film fab. radz. 22.20 Dziennik. 22.40 Wiadomości Sportowe. 22.50 „Z wizytą u nas" — filmowy program rozrywkowy TV NRD.




**1 listopada, piątek**

7.30 Dla szkół. 8.05 Dziennik. 8.15 Dla przedszkolaków. 8.45 „Z pól". 9.15 Dla uczniów. 9.45 Raport pionierów Mołdawii. 10.00 Dla uczniów. 15.00 „Nowiny". 15.10 Program dnia. 15.15 Dla przedszkolaków. 15.45 „Almanach muzyczny". 16.45 „5+2". 17.15 „Nasze wywiady". 17.45 TV barwna. 18.45 „Kartki kalendarza muzycznego" (Borodin). 19.00 „Sztafeta nowin". 20.00 „Arkadiusz Rajkin". Film fabularny. 21.20 „Na dobranoc".

**2 listopada, sobota**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Reportaż sobotni". 9.00 „Z historii fabryk", 9.30 „Wiedza". 10.15 „Źródło". Klub folkloru. 11.15 Raport pionierów Uzbekistanu. 11.30 „Zdrowie". 12.00 TV teatr dla dzieci. 12.45 Szkatułka muzyczna. 12.55 O obronie obywatelskiej. 13.10 „Kronika życia muzycznego republiki. 1926 rok". 13.45 Program z Woroneża. 14.30 TV barwna. 16.00 „Świat socjalizmu". 16.30 Młodzi artyści Białoruskiego Państwowego Teatru Dramatycznego im. J. Kołasa. 17.40 „Mecz TV" (Poznajcie się — „Spartak"). 18.30 „Sopot 67". Film. 19.20 W eterze „Młodość". 20.00 „Człowiek z karabinem". Film fabularny. 21.30 Dziennik.

**3 listopada, niedziela**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik". 8.00 „Album przyrody". 9.00 „Dla was, kobiety". 9.30 Olimpiada archeologiczna. 10.30 Raport pionierów Kirgizji. 10.45 Dla przedszkolaków. 11.15 Dla żołnierzy. 11.45 „Kiosk muzyczny". 12.15 „Horyzonty sportowe Sołowata". 12.45 W eterze „Młodość". 13.00 Hokej. „Spartak" — CSKA. 15.15 „Muzyka kompozytorów białoruskich". 16.05 „Przykład dają komuniści". 16.35 „Silni duchem". Film fabularny. 19.30 „Siedem dni". 20.15 „Wam, bohaterowie pracy". Koncert. 21.00 Dziennik.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ №119

І. ЧЫКВІН

## МЫШЫ



**бегаюць мышы, бегаюць шэрыя мары,**
**бегаюць ціха, бегаюць пэўна і яўна,**
**разносяць і хваляць чужыя тавары**
**і абмінаюць смяротны таможні.**

**бегаюць мышы ўздоўж і ўпоперак,**
**бегаюць жвава, яхідна, тыпова,**
**бегаюць з дня у ноч і з ночы у дзень**
**па гарызанталі і вертыкалі.**

**так бегаюць думкі, жыццё так праходзіць —**
**у гісторыю мора цякуць ручайкі —**
**таленавітых і шчырых слезы**
**і подлых, нікчэмных нявукаў гной.**

* * *

Годзе каханая
Углядацца ў люстэрка
Губы крывіць
Усхліпваць
дуцца
Нервамі шастаць
як аб студню вядзеркам —
Вады не будзе
скарбы не нойдуцца.
Ты ўжо замужам
Двое дзяцей
Як паненкі
У святочных сукенках
Адыходзяць успаміны
Усё далей і далей.





* * *

**Каханне**
**ты цудатворнасць**
**у хлеб ты заменіш камень**
**і белым сумленне чорнае**
**пад тваім дотыкам стане**
**і з вейкі слязе**
**пад павеку вярнуцца**
**ты загадаеш**
**паўчалавеку**
**скажаш быць чалавекам**
**і будзе ім**
**знаю**
**і пустую амфору душы**
**напоўніш старынным напоем**
**і станецца поўным**
**пустое**
**ты мацней**
**за Хрыстовы учынкі ў Кане**
**Хрыстос там не выкрасаў**
**хлеба з каменя**
**і не ўчыніў парожняга**
**поўным**
**актам сваім чарадзейскім**
**актам сакральным**
**і піў народ галілейскі**
**віно з вады натуральнай**

САКРАТ ЯНОВІЧ

## Пакрыўджаныя



Гэтаму хлопчыку восем, мо дзевяць год. Ужо цяпер можна ручацца, што вырасце на адукаванага, нават таленавітага, але нядобрага чалавека. Хлопчык вучыцца на пяцёркі, дастаў чацвёрку і заплакаў, як у няшчасце, меў гарачку, страціў апетыт, задавіўся злосцю на настаўніка. Маці з бацькам накупілі мноства непатрэбных цацак, шакаладак, маці выклікала хуткую дапамогу. Прыехаў лекар, малады і шчыры, назваў усё глупствам. Бацька за гэта паказаў лекару дзверы, а маці абкляла настаўніка. Яшчэ раз абкляла назаўтра, у школе. А бацька астыў і хаця розум зноў абыйшоў яго бокам, усё-такі не адважыўся, нат' можна сказаць, пасаромеўся адшукаць лекара ў бальніцы, каб скокнуць яму да вачэй...

Гэта адно дзіця ў бацькоў, якія вельмі добра жывуць.

## ЧАКАННЕ

Сакавік — яшчэ снег, а ўжо сонца высока на небе; яшчэ маразы, а ўжо цеплыня ўдзень; яшчэ зіма, а ўжо сінія вочы ў дзяўчат.

У сакавіку людзі гавораць аб каторымсьці годзе, калі 30 сакавіка дзеці хадзілі босымі па зямлі, такая цёплая была. Гаворыць гэта і дзед Кастусь, верыць, быў такі год.

А калі зыйдзе снег і запахне зямлёю і зарунее поле, і зашумяць дрэвы — чакаем лета. А летам, у беласценным каньёне вуліцы, дзе вецер з пяском гуляюць у схованкі, гаворым аб зіме, аб здаровым чыстым марозным паветры, аб лёдзе, які здаецца восьмым цудам свету — і мы не супроць таго, каб свет быў з зямлі, паветра і... лёду.



АЛЕСЬ БАРСКІ

* * *

Калі клёны чупрыны павесяць
уплёўшы ў іх зоркі і месяц
не пазбягай жаданай
не уцякай ад кахання
выходзь на спатканне
можа нехта з гандлярскаю жылкай
дзесь ашукаў кагосьці
але мусіць прайсці праз памылкі
кожная з маладосцяў
і таму калі клёны павесяць
чупрыны у змроках шэрых
ты ключом майскага месяца
адмыкай да кахання дзверы
адмыкай іх з даверам.



ВІКТАР ШВЕД

## Калыханка

**Спі, мой дарагі сыночку,**
**Спі, усе даўно заснулі.**
**Спі, пара заплюшчыць вочкі,**

**Люлі, люлі.**

**Спрацаваныя спяць людзі,**
**Пчолкі спаць пайшлі у вулей,**
**Перастань і ты марудзіць.**

**Люлі, люлі.**

**Месяц дрэмле на галінках,**
**Дрэмле і твая матуля.**
**Дык засні хутчэй, мой сыну,**
**Люлі, люлі.**

## Дзяўчынка і сняжынкі



Кружэўныя сняжынкі
За шыбінамі кружаць,
А ля акна дзяўчынка
За імі надта тужыць.

Ды вырваўшыся з хаты
На белы свет зімовы,
Падняўшы ручаняты
У іх сняжынкі ловіць.

Вось на малой далоні
Сняжынку мае Тоня.
Заплакала сняжынка,
Заплакала дзяўчынка.

ЭДВАРД ЯРАШЭВІЧ

## Ластаўкі

У Пясковых Ямах людзі выбіралі пясок. Там хавалі здохлых коней.

На самым версе пясковай сцяны ластаўкі залажылі гнёзды. Зацікавіла нас гэта. Пачалі мы ўлазіць па сцяне, якая абвальвалася. Пясок гарачы, як агонь!

Тадзё Сламінскі далез і ўсадзіў руку ў нару. Выцягнуў з адной яйка, з другой — малых ластавак.

— Трымай!

Кінуў іх да нас.

Эдзё Высоцкі ўхапіў і паклаў ластаўкі на зямлю. Потым пачаў сыпаць ім у дзюбкі пясок. Малыя пташкі махалі крыльцамі і пішчалі, як малыя дзеці.

Прыляцела многа ластавак і лёталі яны над намі.

— Пусці! Што робіш!

Эдзё ўцёк ад мяне. Узяў адну малю ластаўку і адарваў ёй крылы.

— Цяпер не паляціць, — засмяяўся.

Я дагнаў яго і даў яму ў морду.

— Бандыт! Злодзей! — вішчаў Эдзё.

Ён пабег дахаты паскардзіцца на мяне.

Малыя ластаўкі паздыхалі. Я пахаваў іх на горцы над гнездамі і паставіў крыжык з двух каласоў жыта.



## ПОПЕЛ

**Хто не любіць печанай бульбы? Усе любяць!**

**Трэба толькі пахадзіць цэлы дзень па полі, каб ведаць, які смак мае прыпаленая ў попеле лупіна. Вецер не шкадуе нашых плячэй, пяском засыпае вочы, але агню, пры якім сядзім, не загасіць. Збіраем астанкі сухога галавення, з-пад якога выпаўзае на бульбянішчы дым.**

**Пазбіраць дзень бульбу, рукі паграбеюць. Кожны туліцца да агню; каторысьці выграбае абсмаленую бульбу, скрыгічуць зубы. Кожны грабе сабе па адной.**

**Заўтра праўдзівая восень і будзем сядзець пры цёплай печцы ўслухоўваючыся, як трасецца за сцяною холад і бубніць па шыбах дождж.**

**І ніхто не распаліць агню ў полі, і попел дзесьці прападзе.**



Сакольшчына — гэта дваццаць грамад, з ліку якіх у пятнаццаці існуе цераспалосіца. Разгортваюцца камасацыйныя работы; у 82 вёсках трыццаць пяць тысяч гектараў зямлі знаходзіцца ў, так званай, злаclівай цераспалосіцы, кожная гаспадарка разбіта на дзесяткі зямельных кавалкаў. У бліжэйшыя два гады камасацыя будзе праведзена ў дваццаці вёсках. У гэтым месцы трэба сказаць, што дабрадзействы камасацыі могуць быць даступнымі і многім іншым вёскам, калі мясцовыя гаспадары праявяць шмат добрай волі. Тут добры прыклад далі гаспадары ў прыкарыцінскіх вёсках Падсудкі і Навінка, дзе была праведзена камасацыя грамадскім спосабам, у настроі агульнай згоды. Прыклад падхапілі гаспадары іншых трох вёсак, між імі, у Лазнях каля Сакалды. У 1970 годзе аж восем вёсак намерана правесці ў сябе камасацыю такім спосабам. З часам знойдзецца больш. Такі шанц павінны выкарыстаць гаспадары Слоі, Шудзялава, Гуркі, Крушынянаў, Сідаркі, Кусцінцаў, дзе моцна забалаганена класіфікацыя зямлі — яе можна выправіць падчас грамадскай камасацыі. У зімовыя вечары варта перадыскутаваць гэту важную справу і ўстанавіць рэальныя планы згоднай дзейнасці.

Вяжацца гэта з тым, што ў сакольскай гаспадарцы пачаўся надта пазітыўны зрух на лепшае. Тэмпы росту ўраджайнасці палёў тут вышэйшыя ад сярэдніх у нашым ваяводстве. Гэтыя тэмпы нябачанага раней развіцця будзе штораз мацней тармазіць, менавіта, цераспалосіца. Сёлета гаспадары Сакольшчыны купілі рэкордную колькасць — каля паўтысячы — сеялак. Падлічана, што толькі трэцяя частка гаспадароў мела асеннюю сяўбу «з радзюшкі», дзедавай традыцыяй, марнатраўнай. Сеялкі прыняліся. Першы раз не хапіла іх у ГС-аўскіх складах. Таксама ўпершыню распрадана ўсё кваліфікаванае зерне на сяўбу, і яшчэ дваццаць тон зерня прывезена на Сакольшчыну з другіх паветаў. Прытым, купляў зерне гэтае першакласнае не той, хто хацеў, але той, хто павінен быў палепшыць свой пасяўны матэрыял. Куплена больш мінеральных угнаенняў.

## ...УКАЗВАЮЦЬ ЯНЫ НА...

Заслуга ў тым вясковых партыйных арганізацый, якія гуртуюць у сваіх радах звыш паўтысячы лепшых гаспадароў. Да іх ліку належыць, напрыклад, Іван Чаховіч (сын Андрэя) у Кнышэвічах, Альфонс Белаус у Лябедзіне, Яўгень Бобка ў Крушынянах, Аляксандр Хомчык у Борках. Напрыклад, Андрушкевіч у Патурбоўшчыне дасягнуў каля дваццаці чатырох цэнтнераў збожжа з аднаго гектара, а Антон Чарневіч у Мізарэччах каля Сакалды — 18 цэнтнераў азімай пшаніцы і 22 цэнтнеры жыта з аднаго гектара. Сакалдоўская старонка жа ж належыць да бяднейшых на Сакольшчыне. Таму гэтакія лікі асабліва павучальныя: указваюць яны на вялікія рэзервы.

Прытым меліярацыя далін Сакалды і Слоі стварыла добрыя перспектывы развіцця жывёлагадоўлі. Закупкі малака павялічваюцца з пяці да дзесяці мільёнаў літраў у год. Затым, трэба лічыцца з падваеннем і гэтага дзесяцімільённага ліку. Малачарні ўжо заліты малаком па вочы, патрэбны новыя. Але гэта асобная тэма. (ся)

ПРЫКЛАД ДЛЯ НАСЛЕДАВАННЯ

## СЫШЛАСЯ ЎСЯ ВЁСКА

Ні ў якім календары дзень 10 кастрычніка святам не з'яўляецца. Толькі ў вёсцы Якубоўскае на Бельшчыне гэты дзень быў вялікім святам для ўсіх дарослых і недарослых грамадзян вёскі.

У новую, грамадскім чынам збудаваную школа-святліцу (увага, новая назва) сышлася ўся вёска, святочна прыстроеная. Госці з Бельска, Беластока і Варшавы з'язджаліся паволі. А людзі чакалі вельмі цярпліва, як толькі сардэчныя вясковыя людзі чакаць патрапяць. Кожнай прыязджаючай машыне аркестр адыгрываў марш. Падабалася гэтая спантанічная людская радасць, мужчыны, адстроеныя ў белыя нон-айрановыя кашулі, жанчыны — у святочных світэрах. Дзеці тры гадзіны стаялі за школай з асеннімі кветкамі і галінкамі бярозы ў руках, каб павітаць гасцей з Варшавы, якія ад іх мамаў купляюць саламяныя маты.

Маты!.. Якраз вакол іх па сутнасці і круціўся гэты ўрачысты дзень у Якубоўскім. Уся вёска тчэ маты і зарабляе на іх, як аблічваў Вацлаў Паплаўскі, мясцовы арганізатар чынаў, ад 10 да 30 тысяч у год.

Ваяводскае аб'яднанне саматужнікаў дало новай святліцы абсталяванне, г.зн. сталы і крэслы. Дырэктары з варшаўскай цэнтралі, узрушаныя сардэчнасцю і гасціннасцю вёскі, паабяцалі тэлевізар з вялікім экранам, 20 тысяч злотых на бібліятэку для святліцы і магнітафон.

Тэкст (вл)
фота: Раман Сянько



Густы шпалер вітаючых.



Дзеці 3 гадзіны чакалі, каб сказаць, што будуць у сваёй новай школе добра вучыцца.



У святліцы. Сцяна — печка з зялёных кафляў. Пры ёй лава і плеяда якубоўскіх паняў па-святочнаму.

## Крынкаўская карусель

Адно, чаго найбольш не разумеюць у Сакольцы — гэта Крынкаўская старонка, адсутнасць інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі ў гэтым паўднёвым усходзе павета. Называюць яе часамі крынкаўскай каруселлю з увагі на кантрасты, супярэчнасці: ёсць вельмі добрыя землі і вельмі кепскія землі, расце пагалоўе авец, а змяншаецца пагалоўе кароў, павышаецца пагалоўе коней і «пагалоўе» сельскагаспадарчых машын (дзіўна!), пашыраецца арэал кармавых культур і занядае сіласавая гаспадарка (няма чаго сіласаваць?), ухапіліся за гатунак бульбы «флісак», хаця за «эпоху» плацяць у кантрактацыі значна больш («эпоха» выйшла з моды?), утрымоўваецца пагалоўе свіней, хаця цэны парасят даўно паменшалі і меншаюць.

З-пад Крынак найбольшы на Сакольшчыне лік гаспадароў, гатовых аддаць свае гаспадаркі ўзамен за «рэнты». (ся)

## ПРАБАЧЭННЯ НЕ БУДЗЕ

Нядаўна тэлеграфныя агенцтвы разнеслі на ўвесь свет важную вестку. Падаем яе за агенцтвам ПАП: **«Грамадскі камітэт XXIII сесіі генеральнай асамблеі ААН у выніку галасавання зацвердзіў тэкст канвенцыі аб неперадаўненні ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва...»**

З ініцыятывай стварэння гэтакай канвенцыі некалькі год таму назад выступілі польскія прадстаўнікі ў ААН. Характэрна, што супраць канвенцыі галасавалі прадстаўнікі Злучаных Штатаў Амерыкі і іх некаторыя саюзнікі.

Выступаючы з ініцыятывай апрацавання міжнароднай канвенцыі аб ваенных злачынствах і злачынствах супраць чалавецтва, Польская Народная Рэспубліка кіравалася сваім гістарычным, на жаль, вельмі трагічным вопытам.

За перыяд ад 1 верасня 1939 года да 8 мая 1945 года гітлераўскія злачынцы аддалі на смерць 6 мільёнаў 28 тысяч грамадзян Польскай дзяржавы. Амаль у 20 тысячах месц палілася кроў ні ў чым непавінных людзей. Кожнага дня гітлераўскай акупацыі на польскай зямлі фашысцкія палачы забівалі амаль 2900 грамадзян Польскай дзяржавы.

Апрача гэтага: засталіся фізічнымі і псіхічнымі калекамі амаль 600 тысяч чалавек, набавіліся сухот (звыш звычайнай нормы) 1 мільён 140 тысяч чалавек, паменшылася колькасць нованароджаных (таксама ніжэй звычайнай нормы) на 1 мільён 215 тысяч дзяцей, прымусова пераселена 2 мільёны 478 тысяч грамадзян і вывезена на працу ў Нямеччыну 2 мільёны 460 грамадзян Польскай дзяржавы.

Вось жудасная, крывавая статыстыка. За кожным яе лікам крыецца чалавечая трагедыя, гора сям'і і слёзы бацькоў, дзяцей. Гэтага забыць нам нельга. Каб не вядома колькі часу прайшло ад заканчэння вайны, нельга ні за якую цану дараваць тым, што людское жыццё цанілі ніжэй жыцця сабакі ці іншага звяра, якія толькі хваляваліся тым, што забіванне людзей задорага ім каштуе і ламалі галавы, якім чынам як найбольш зарабіць (Так, зарабіць!) на масавым забойстве.

Цяпер спакойна жывуць у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі. Гэтая дзяржава не з'яўляецца членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і пастановы ААН яе фармальна не абавязваюць. Урад ФРГ быў ужо гатоў звыш тры гады таму назад пусціць у няпамяць усе злачынствы гітлераўцаў. Пратэст сусветнай грамадскай апініі прымусіў урад і парламент ФРГ прадоўжыць тэрмін праследвання гітлераўскіх забойцаў на 4 гады, г. зн., да 1969 года ўключна.

А што будзе пасля гэтага тэрміну? Ці заходнегерманская дзяржава падпарадкуецца міжнароднай канвенцыі аб неперадаўненню ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва?

Трэба ўсё рабіць, каб яе да гэтага прымусіць.

Становішча насельніцтва Беласточчыны ў гэтай справе выяўляе **«Рэзалюцыя»** Акруговай камісіі даследвання гітлераўскіх злачынстваў, якая дзейнічае ў Беластоку. **«Рэзалюцыя аб неперадаўненні ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва»** была нядаўна аднагалосна прынята на пленарным пасяджэнні членаў камісіі. У ёй між іншым чытаем:

«Беласточчына, як і другія раёны Польскай дзяржавы ў час гітлераўскай акупацыі пацярпелі аграмадныя страты. Паводле дадзеных Бюро ваенных кампенсацый, якое існуе пры Прэзідыуме Рады Міністраў, гітлераўскія ўлады пазбавілі жыцця амаль 300 тысяч жыхароў Беласточчыны. З тэрыторыі Беластоцкага ваяводства гітлераўскія акупанты вывезлі 42 тысячы асоб на нявольніцкую працу ў Нямеччыну. Перасялілі або вывезлі ў невядомым напрамку амаль 30 тысяч асоб. Вялікая колькасць грамадзян, жыхароў нашага ваяводства, была закінута ў турмы, лагеры і гета...»

«...Толькі нямногія, — чытаем далей, — віноўнікі злачынстваў на польскім народзе былі дагэтуль пакараны. У Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі жыве яшчэ і займае адказныя пасты вялікая колькасць ваенных злачынцаў, якія дагэтуль не дачакаліся заслужанай кары. Менавіта ў гэтай краіне ў апошнім часе штораз галасней адзываюцца патрабаванні, каб ад 1 студзеня 1970 года пусціць у няпамяць гітлераўскія ваенныя злачынствы і злачынствы супраць чалавецтва.

 

## ПАРТЫЯ і Я

# НА НАСТАЎНІЦКІМ ПАСТУ

Настаўніца **Надзя Цар** зараз працуе ў пачатковай школе № 3 (беларускай) у Бельску-Падляшскім. З'яўляецца яна выхавацелькай першага класа і вядзе практычна-тэхнічныя заняткі з дзяўчатамі. Апякуецца таксама школьным самакіраваннем (самажондам).

Н. Цар належыць да маладога настаўніцкага пакалення. Педагагічны ліцэй закончыла ў 1954 годзе, а настаўніцкую студыю (беларускую філалогію) закончыла, ужо працуючы настаўніцай. Але партыйная дзейнасць настаўніцы на многа старэйшая, чымсьці прафесіянальны стаж. Н. Цар у першыню сустрэлася з партыяй, будучы яшчэ ў пачатковай школе, заканчвала VII клас. Уступіла ў рады Польскай рабочай партыі тады, калі час быў неспакойны. Партыйная свядомасць маладой дзяўчыны падказала, што нельга застацца толькі з пачатковай адукацыяй. Паступае ў новаарганізаваны ў Бельску педагагічны ліцэй. «У той час гэта была і прыемнасць і партыйнае заданне», — успамінае Надзя.

Будучы вучаніцай ліцэя, стараецца пагадзіць абавязкі вучня з партыйнай працай у міжшкольнай партыйнай арганізацыі, будучы намеснікам сакратара ПОП. Працуе актыўна ў школьнай арганізацыі ЗМП. Можна сказаць, што тут, у школе, я падбудавала тэарэтычна тое, у чым практычна была ўжо перакананы», — гаворыць Н. Цар.

Пасля заканчэння ліцэя — першае накіраванне на працу ў Рыбалы. Аднак тут прышлося працаваць коратка. Па загаду партыі Надзя пераходзіць на працу ў Павятовы камітэт ПАРП як палітычны работнік.

— Пасля нейкага часу я пачала хварэць і таму была вымушана пакінуць працу ў камітэце і вярнуцца да настаўнічання.

Даўжэйшы час Н. Цар была кіраўніком пачатковай школы ў Кнарыдах. Гэта на яе долю прыпаў нялёгкі перыяд — пабудова новай школы ў вёсцы. Сямейныя справы аднак прымушаюць перавесціся ў Бельск. Нейкі час працуе ў школе № 2, а потым згодна з воляй партыйных органаў абымае кіраўніцтва толькі што аддзяліўшайся



ад ліцэя пачатковай школы № 3 (беларускай). І зноў, калі кадравая сітуацыя больш устабілізавалася, Надзя Цар перадае кіраўніцтва, каб стаць звычайнай настаўніцай. Гэта іменна вельмі характэрнае для працы і дзейнасці Надзі — станавілася заўсёды там, куды яе пасылала партыя, і адыходзіла па сваёй просьбе, калі бачыла, што ёсць каму заступіць.

— Зараз, у перадз'ездаўскі перыяд, вядзецца агульнапартыйная і агульнанародная дыскусія над тэзісамі. Як гэта маецца ў вашай працы?

— Як апякун школьнага самакіравання стараюся прызвычаіць моладзь да жыцця ў сацыялістычным грамадстве, г.зн., да планавання працы, самаабслугоўвання і кантролю працы. Праўленне самакіравання самое праводзіць сходы і згодна з апрацаваным планам прымае заданні і іх рэалізуе. Моладзь вучыцца сама праводзіць сходы, пісаць пратаколы, кіраваць калектывамі ў класах, шукаць матэрыялы да паасобных урачыстасцей, якія рыхтуе самастойна. Моладзь апякуецца кветкамі ў школе, ад 1 класа прыймае ўдзел у зборы макулатуры. Зробленыя грошы прызначае на Дзень дзіцяці і на іншыя патрэбы. Гэта толькі некаторыя прыклады маёй пазалекцыйнай працы. Мне здаецца, што такім чынам я рэалізую заданні, пастаўленыя партыяй перад настаўнікамі.

— Пытанне крыху, можа, асабістага характару: што Вам дала партыя?

— Перш за ўсё я ўдзячна партыі за тое, што яна дала мне матэрыялістычны погляд на свет. Я перакanана на шматлікіх прыкладах з майго жыцця і сцвярджаю яшчэ раз, што партыя сапраўды з'яўляецца вядучай сілай народа, веру толькі ў партыю і аддана ёй да канца. Гэткія ідэалы стараюся перадаваць сваім падапечным.

**А. Карпюк**
фота аўтара

## МІЖ З'ЕЗДАМІ

# БГКТ

Пісалі мы ўжо неаднаразова аб прагрэсе, які назіраецца ад IV з'езда партыі ў розных галінах жыцця беларускага насельніцтва. Варта таксама расказаць чытачам аб дасягненнях Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў перыяд паміж з'ездамі партыі.

Вядома, гаворачы аб арганізацыі, трэба перад усім сказаць аб тых, хто гэтую арганізацыю стварае — аб людзях. Людзей у БГКТ многа, 6600 членаў. За апошнія 4 гады лік членаў пабольшыўся на дзве тысячы чалавек. Пабольшыўся таксама лік гурткоў, у якіх згуртоўваюцца гэтыя члены. Чатыры гады таму назад было іх 155, зараз — 176.

Як вядома, адной з асноўных мэтаў Беларускага таварыства з'яўляецца пашырэнне тых элементаў свядомасці беларусаў, якія спрыяюць брацкаму сужыццю беларусаў і палякаў, а таксама заангажаванню беларусаў у сацыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне. Мэце гэтай служаць перад усім рознага тыпу гутаркі, лекцыі і даклады, якія БГКТ праводзіць у беларускіх асяроддзях. Найбольш папулярнымі былі гутаркі перад канцэртам «Лявоніхі» ды перад кінафільмамі. За чатыры гады праведзена каля 720 такіх гутарак.

Больш сур'ёзны характар мае праца лектарскай групы. Прымаюць у ёй удзел спецыялісты розных галін жыцця: журналісты, аграномы, лекары, юрысты. Людзі гэтыя выехалі ў паасобныя вёскі і правялі з сялянамі гутаркі на розныя цікавячыя вёску тэмы каля 300 разоў. Не без значэння для свядомасці нашага насельніцтва былі таксама радыёгутаркі на беларускай мове, якія чыталіся па 5 дзейнічаючых у беларускім асяроддзі радыёвузлах. Агулам, за чатыры гады прачытана каля паўтысячы такіх гутарак. Ад шэрагу гадоў таварыства карыстаецца, як вядома, уласнай кінаапаратурай. Дзякуючы гэтаму Галоўнае праўленне БГКТ змагло задэманстраваць у беларускім асяроддзі каля 350 кінафільмаў. У гэтым самым часе эстрада «Лявоніха» дала аж 860 канцэртаў сваёй папулярнай у нашых вёсках праграмы.

Выключна вялікую ролю ў працы БГКТ займае выдавецкая дзейнасць. Аб яе размерах сведчыць можа факт, што за 4 гады таварыства распаўсюдзіла ў беларускім асяроддзі каля 90 тысяч экземпляраў розных кніжак свайго выдання. За гэты час выдадзена чатыры кніжкі літаратурнага характару на беларускай мове: «Прамень думкі» Я. Бурша, альманах «Белавежа», «Жыццёвыя сцежкі» В. Шведа, «Жнівень слоў» А. Барскага. Ну і, зразумела, штогод выдаецца «Беларускі каляндар».

Усё гэта дасягненні таварыства, якія можна падлічыць ды пераказаць у ліках. У ліках аднак нельга змясціць усёй дзейнасці БГКТ. Вялікая частка яго працы застаецца невымернай, хаця, тым не менш, істотнай. Застаецца штодзённая, мала на першы погляд відавочная праца інструктараў і актывістаў БГКТ у кантакце з беларускім насельніцтвам, у дапамозе вясковым мастацкім гурткам, у арганізаванні штогадовых фестываў, аглядаў аматарскіх калектываў і г.д. Усё гэта спрыяе хутчэйшаму культурнаму прагрэсу беларускага асяроддзя. (п)

---

Галоўная камісія даследвання гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы ў сувязі з гэтым збірае матэрыялы для звыш 3000 спраў, якія абвінавачваюць 10 000 падазроных у тым, што яны дапусціліся ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва і дагэтуль не былі пакараны. Акружная камісія даследвання гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку разглядае зараз 397 спраў супраць некалькіх соцень віноўнікаў, падазроных у злачынствах на жыхарах Беласточчыны ў час гітлераўскай акупацыі.

Трэба дадаць, што яшчэ не ўсе злачынствы гітлераўскіх акупантаў ужо выяўлены, пра многія камісія нічога не ведае...»

«...Маючы на ўвазе людабойчы характар злачынстваў, якіх гітлераўская Германія дапусцілася на польскім народзе і грамадзянах Польскай дзяржавы, — заканчвае рэзалюцыя, — і тое, што многая колькасць злачынцаў яшчэ жыве і не была дагэтуль пакарана, **Пленум Акруговай Камісіі даследвання гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку выяўляе свой рашучы пратэст супраць прадбачанаму ў ФРГ перадаўненню праследвання гітлераўскіх злачынстваў».**

Пад гэтай Рэзалюцыяй безумоўна падпісаўся б кожны жыхар Беластоцкага ваяводства, так, як без ніякага хістання пад ёю падпісваюся я.

**Віктар Рудчык**

## Гаспадарскае „Ці ведаеш, што...“

...у Беластоцкім ваяводстве ў абсалютна дастатковай колькасці ёсць у гандлёвых складах канцэнтраваныя кармы.

...за апошняе чатырохгоддзе павялічыліся ўраджаі збожжавых культур у сярэднім на 2 цэнтнеры з аднаго гектара.

...на тэрыторыі ваяводства вырашчана 90 тысяч тон пасяўной адборнай бульбы, з чаго 30 тысяч тон накіравана ў Люблінскае і Жэшаўскае ваяводствы па сто вагонаў штодзень.

...прадаем за граніцу штогод на 140 мільёнаў дэвізавых злотых пасяўной бульбы. Аднаўленне пасяўнога матэрыялу аўтаматычна павялічвае ўраджайнасць бульбы на 70—80 цэнтнераў з аднаго гектара.

...у Галандыі ўраджаі бульбы перавышаюць чатырыста цэнтнераў з аднаго гектара. (ся)

# ПРА БЕЛАРУСЬ У ПЛОЦКУ

**17.Х.** г. года па ініцыятыве Мазавецкага цэнтра навуковых доследаў, Інстытута польска-савецкіх суадносін ПАН, Плоцкага навуковага таварыства і Ваяводскага праўлення ТППР—Варшава адбылася ў Плоцку гістарычная сесія, прысвечаная 50-годдзю Беларускай ССР.

У сесіі ўзяло ўдзел каля 300 навукоўцаў, дзеячаў з большасці ваяводстваў ПНР, а таксама госці з БССР, ЛССР, УССР і Інстытута славяназнаўства з Масквы. Дэлегацыю беларускіх вучоных узначальвала праф. Н. Каменская, а ў яе складзе былі В. Мялешка і І. Цішчанка. БГКТ прадстаўляла 7 асоб.

Зала агульнаадукацыйнага ліцэя ў Плоцку ўпрыгожана гербамі ПНР і БССР, сцягамі і напісамі. На адной сцяне «Мір, дружба, сацыялізм» — на беларускай мове.

Пасяджэнне адкрыў прадстаўнік ВРН Варшава Драўноўскі, вёў сесію праф. Т. Цесляк. Дакладчыкамі былі др А. Дэруга — узнікненне і першыя гады БССР, праф. Н. Каменская — дасягненні Савецкай Беларусі за 50 год, др А. Баршчэўскі — польскія зацікаўленні мовай і культурай Беларусі ў XIX і першай палове XX ст., і др В. Мялешка — польска- беларускае навукова-культ. супрацоўніцтва пасля II сусветнай вайны.

У дыскусіі голас забірала 10 асоб, у тым ліку ўдзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі — тав. Падсядко і член КПП з Плоцка тав. А. Квяткоўскі, якія вельмі цёпла ўспаміналі сваіх калег - беларусаў. Выступіла таксама некалькі навукоўцаў: А. Абрэмбска, Э. Смулкова, Е. Тамашэўскі, Ю. Кавальскі і іншыя. Частка выказванняў кранала праблемы далейшага развіцця супрацоўніцтва, іншыя — распрацаваных у дакладах тэм. В. Швед і У. Гацута паінфармавалі аб працы БГКТ.

Выключна прыемным акцэнтам сесіі было павітанне ўдзельнікаў, якое зрабіла вучаніца ліцэя на рускай мове, і ўручэнне моладдзю кветак.

Дыскусію падсумаваў праф. Т. Цесляк, які назваў Плоцк, ято петрахімію сімвалам супрацоўніцтва ПНР і БССР і звярнуў увагу на багацце закранутых праблем, якія патрабуюць вырашэння.

За арганізаванне сесіі і ўдзел у ёй усім прысутным падзякавала праф. Н. Каменская. Многа працы ў яе падрыхтоўку ўклаў вядомы ўжо нам др Е. Антаневіч.

Неабходна адзначыць, што плоцкая сесія, прысвечаная 50-годдзю БССР, перарадзілася ў агульнадзяржаўную сесію гісторыкаў і дзеячаў розных грамадскіх таварыстваў, якіх цікавіць праблематыка супрацоўніцтва гэтых суадносін народаў. Можна лічыць, што гэты добры прыклад знойдзе водгук сярод іншых ваяводстваў, у тым ліку, нашай Беласточчыны. (ую)

# ПАЭЗІЯ КАЗБЕРУКА

Маю вось у руках трэці — пасля «Дзяцелаў» і «Агнёў на снезе» — паэтыцкі томік Аляксея Казберука — гэта «Бязлюдная арка».

Паэзія Казберука — цяжкая, і для яе прыёму неабходна псіхічная і духоўная падрыхтоўка. Чытаць яе можна ў хатняй цішыні або на ўлонні прыроды, снуючы роздумы над істотай і сэнсам нашага свету.

Томік «Бязлюдная арка» складаецца з двух частак: «Падляшскія сцежкі» і «Бязлюдная арка». Падзел гэты абаснаваны не толькі фармальнымі прынцыпамі. Абедзве часткі розняцца і па сэнсу і па агульнай атмасферы паасобных твораў. «Падляшскія сцежкі» — гэта асколкі ўражанняў са старонак, дзе паэт правёў сваё дзяцінства. Тут вылучаюцца паэтыцкай прыгажосцю і задумай над вясковым жыццём і вясковымі краявідамі такія вершы, як «Сялянская балада», «Птахі сумуюць па гнёздах», «Восень на хутары» і асабліва гучыць высокім мастацтвам кароткая філасофская замалёўка «Зіма».

Другой часткай томіка, сваёй «Бязлюднай аркай», паэт выплыў на акіян смутку і безнадзейнасці. Тут паўтараюцца сумныя асеннія і зімовыя матывы, няма сонца, няма радасці, няма ценю думкі аб творчай чалавечай працы. Завяршэннем гэтых настрояў з'яўляецца, мабыць праграмны, верш пад загалоўкам «Антыманіфест», які па сваёй пабудове, па ігры метафараў з'яўляецца жамчужынай мастацтва, але па зместу крыху палохае чалавека, азнаёмленага з дагэтуляшнімі творчымі дасягненнямі Казберука; палохае сваёй безнадзейнасцю і адзінокасцю паэта, які ў арцы людскога жыцця застаецца толькі сам адзін, а думкі яго «маюць горыч крапівы і поўна ў іх чаду спаленых крылаў». Гэты песімізм рассвятляе крыху апошні верш зборніка — «Эцюд аб зменлівасці», у якім паэт сцвярджае, што на зменлівым і ўвесь час плывучым шляху жыцця яго арка плыве на паднятых парусах, а рукі ў яго яшчэ не скрыпяць ад старасці пад цяжарам быту. І гэта абнадзейвае.

З усяго гэтага вынікае, што новы зборнік вершаў Казберука з'яўляецца дакументам творчых хістанняў і пошукаў паэтыцкага адлюстравання нашай рэчаіснасці. Значыць, Аляксей Казберук яшчэ не знайшоў уласцівай сабе творчай дарогі. Надта часта і, хіба, насілу стараецца ён зусім штучна, пры дапамозе метафар, якія да нічога не вядуць, заблытаць прастату паэтычных малюнкаў і таму, хіба, Люблінскае выдавецтва пабаялася дапусціць казберуковы зборнік да рук, так званага, масавага чытача і выдала яго тыражом усяго 600 экз.

**Віктар Рудчык**



 

# СОН СТАВІЦЬ ДЫЯГНАЗ

— Калі б урачы мелі магчымасць пастаянна назіраць сны людзей да захворвання, на працягу хваробы і ў перыяд выздараўлення, — гаворыць кандыдат медыцынскіх навук Васілій Касаткін, — яны маглі б заўважыць характэрныя змены ў іх. У большасці хворых сон парушаецца яшчэ да яўнага праяўлення хваробы, снабачанні прымаюць непрыемны характар.

Ленінградскі даследчык Васілій Касаткін не галаслоўны ў сцвярджэннях. Да гэтых вывадаў ён прыйшоў на аснове трыццацігадовых назіранняў, падвергнуўшы старанному аналізу каля шасці тысяч снабачанняў!

Вывад урача-вучонага: па снабачаннях можна ставіць дыягназ задоўга да афіцыйнага прызнання захворвання лечачым урачом!

Вось прыклады магчымых тэрмінаў прадказання захворвання (паводле даных Васілія Касаткіна на аснове снабачанняў). Ангіну і грып, вострыя бранхіт і катар дыхальных шляхоў, кан'юнктывіт, фурункулы і скурныя запаленні, вострыя апендыцыт, востры гастрыт і страўнікава-кішэчныя атручванні, напрыклад, можна «прадказаць» у ноч напярэдадні захворвання.

Існаванне «апарату прадбачання» ў мозгу чалавека даказана многімі работамі ў фізіялогіі. У Савецкім Саюзе шырока вядомы даследванні ў гэтым напрамку акадэміка Пятра Анохіна.

У чым жа праяўляюцца гэтыя «снабачныя» сімптомы захворванняў? Які малюнак «прарочага сну» ў кожным канкрэтным выпадку? «Хваравітыя» снабачанні адрозніваюцца ад звычайных перш за ўсё назойлівасцю і аднатыпнасцю. Прафесіянальныя ж веды, адукацыя і род занятку чалавека надаюць ім сваю, спецыфічную афарбоўку. І таму жанчына-ўрач, якая захворвае на ангіну, бачыць у сне ў сябе «белыя дыфтэрыйныя плёнкі» ў горле, а чалавек, які не мае медыцынскіх ведаў, — проста раненне ці пашкоджанне горла.

— Непрыемныя зрокавыя вобразы і сцэны ў сне, якія прадказваюць захворванне, — гаворыць Васілій Касаткін, — звязаныя з яго канкрэтнымі асаблівасцямі, у іх даволі дакладна адлюстроўваецца лакалізацыя хваравітага працэсу, характар адчуванняў і функцыянальныя асаблівасці паражоных органаў і частак цела. Не трэба забываць, што снабачанне — вытворны псіхічны акт, а не самастойная з'ява...

Так, пры захворваннях лёгкіх узнікаюць сцэны з парушэннем дыхання, у час захворванняў мышцаў ног, рук і тулава — з парушэннем руху. Пры захворваннях сэрца (інфаркт міякарду, стэнакардыя) з'яўляюцца кашмары, звязаныя з вобласцю сэрца, з моцным пачуццём страху смерці.

У любым выпадку, ствараючы нашым снабачанням непрыемны эмацыянальны і зрокавы фон, які выклікае неспакой, нервовая сістэма як бы папярэджвае аб надыходзячай небяспецы. Чула ўлоўліваючы ледзь прыкметныя сігналы ад сваіх «датчыкаў» — органаў пачуццяў, яна выклікае ў кары галаўнога мозгу іменна такія сцэны і сітуацыі, якія незвычайныя і палохаюць нас, інакш наўрад ці звярнулі б мы ўвагу на гэтыя трывожныя сігналы.

Чалавек хоча вынырнуць з вады, але не можа, дыхаць цяжка. Або падымаецца на гару, і яму цяжка дыхаць. Адбываецца нейкая аварыя, грудную клетку засыпае зямлёй. Нязручнае адзенне, якое сціскае дыханне, адчуванне ўдушша, трывогі, страху... Гэта — у сне. Магчымы ж дыягназ: запаленне лёгкіх, плеўрыт, бранхіт, туберкулёз.

Снабачанні неўрасценікаў звычайна звязаны з сітуацыяй, якая садзейнічае з'яўленню гэтага захворвання. Таму ўрач-псіхіятр, аналізуючы падобныя снабачанні, можа зусім дакладна ведаць навакольную абстаноўку і асноўныя прычыны хваробы. Аказваецца, неўрасценікі ў сне мысляць больш лагічна, звязна, чым здаровыя людзі! У іх часцей, чым у здаровых людзей, сустракаюцца ў снабачаннях адчуванні гуку, цяпла, холаду, дотыку, болю.

Ну, а калі вам нічога не сніцца? Гэта таксама можа з'явіцца — «сігналам бедства», які пасылае нервовая сістэма. Змяншэнне снабачанняў у адносінах да звычайнага стану, магчыма, указвае на аслабленне асноўных нервовых працэсаў, на збядненне псіхічнай дзейнасці. Гэта можа быць, напрыклад, вынікам павышэння ўнутрычарапнога ціску.

— Аналіз снабачанняў дапамагае наблізіцца да разумення цэлага раду функцыянальных асаблівасцей галаўнога мозгу, — гаворыць, ацэньваючы значэнне работы Васілія Касаткіна, член-карэспандэнт Акадэміі медыцынскіх навук СССР прафесар Наталля Бехцерава. — Даныя аналізу снабачанняў могуць быць выкарыстаны для вызначэння стану вышэйшай нервовай дзейнасці, а гэта важна пры адборы многіх спецыялістаў з дыягнастычнай мэтай, пры многіх нервова-псіхічных і саматычных захворваннях. (АДН)

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Адзін са старэйшых гарадоў Беларусі — горад Слуцк. У ім ідзе вялікае жыллёвае і культурна-бытавое будаўніцтва.

На здымку: Новыя жыллёвыя дамы па вуліцы Сацыялістычнай.

## Кулінарыя

### ТОРТ СА СМЯТАНКІ

Ахалоджаную смятанку збіце на пену і зноў пастаўце на холад. Яечныя жаўткі разатрыце з цукровым пяском, каб маса была аднародная. Дадайце збітую смятанку, ванільны цукар, паступова ўсыпце пшанічную муку і перамяшайце. Дадайце яечныя бялкі, збітыя з цукровай пудрай, і зноў перамяшайце. Асцярожна пакладзіце цеста ў нізкую форму, змазаную сметанковым маслам і пасыпаную сухарамі. Выпякайце ў духоўцы пры тэмпературы 200—220°. На гэта спатрэбіцца 20—30 мінут.

Калі торт астыне, пасыпце яго цукровай пудрай або змажце варэннем.

На 250 г смятанкі патрэбна 3 яйкі, 1/2 шклянкі цукровага пяску, 1/2 шклянкі пшанічнай мукі, 1/2 пакецiка ванільнага цукру, чайная лыжка сметанковага масла, 2 чайныя лыжкі цукровай пудры (на абсыпку торта).

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ВОСЬ ДЫК КОПІЯ!

Друкар Гюнтэр Дэйц з Мюнхена распрацаваў новы працэс капіравання мастацкіх палотнаў, які складаецца амаль з 40 аперацый. У выніку з літаграфскага станка сходзіць копія, якая не адрозніваецца ад арыгінала! Што гэта так, сведчыць такі эксперымент. Італьянскаму мастаку Марына Марыні паказалі тузіну палотнаў, на якіх была напісана адна і тая ж карціна. Сярод іх была і яго работа, якую ён выканаў уласнаручна. Але колькі мастак ні шукаў, ён не змог знайсці сваю карціну. Таўшчыня і колер фарбаў, асаблівасці мазкоў — усё было зусім аднолькавае. Новы спосаб вырабу копій карцін адкрывае вялікія магчымасці для шырокага далучэння людзей да вядомых твораў мастацтва.

### СТАЛЬНОЕ ВАЛАКНО

Незвычайнае валакно пачалі прымяняць тэкстыльшчыкі Швецыі. Яно выпрабляецца з асобай сталі і перапрацоўваецца на звычайных трыкатажных машынах. Стальное валакно аказалася асабліва прыдатным для вытворчасці панчох і шкарпэтак, якія не распускаюцца.

### УЗРОСТ 80 ТЫСЯЧ ГАДОЎ

На дне ракі Нарві ў раёне Пултуска ў Польшчы знайшлі рэшткі маманта. Шкілет жывёлы захаваўся дрэнна, таму ў Варшаўскі музей зямлі даставілі толькі бівень даўжынёю 2.20 м. На думку палеантолагаў, мамант жыў каля 80.000 гадоў таму назад, у перыяд апошняга ледавіка.



## Самаабслуга

Панчохі будуць даўжэй служыць вам і захаваюць добры выгляд, калі карыстацца імі беражліва і асцярожна.

Новыя панчохі, перш чым надзець, памыйце. Наогул панчохі трэба мыць штодня. Пасля мыцця адціскаюць, ні ў якім разе не выкручваючы, а загарнуць у ручнік. Вешаць для прасушкі не перагінаючы, каб не аставалася следу. Прасаваць панчохі не трэба. Захоўваць іх у складзеным выглядзе не раім, лепш за ўсё павесіць панчохі на мяккі шнур.

Тонкія панчохі з шоўку або капрону трэба надзяваць вельмі асцярожна. Спярша надзеньце панчоху на пальцы нагі, затым на пятку і толькі тады нацягніце на нагу. Здымаць панчохі трэба таксама асцярожна — зверху ўніз. Ні ў якім разе нельга цягнуць іх за насок ці пятку.

Нейлонавыя панчохі трэба мыць у цёплай вадзе пасля кожнага дня носкі. Панчохі, якія вы не надзяваеце, таксама раім час ад часу мыць. Пасля кожнага мыцця панчохі трэба добра прапаласкаць. На светлых капронавых панчохах іншы раз застаюцца сляды ад раменьчыкаў туфляў або ад сцелак. Каб знішчыць гэтыя сляды, запэцканае месца пашаруйце мылам, перш чым мыць.

Каб панчохі служылі вам доўга, рэгулярна мыйце ногі, падразайце пазногці.

## Чвэрць стагоддзя назад

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА



Зрабіўшы ноччу каля трыццаці кіламетраў, раніцай убачылі мы затуманеную сцяну Белавежскай пушчы. Мэта першага, але як жа цяжкога, этапа нашага паходу! Там чакае нас заслужаны адпачынак.

Пушча! Жамчужына Беласточчыны! Там, на яе заходнім баку пачынаецца мой родны кут. Там усё добра знаёмае: кожнае мястэчка, кожная вёска, лясы, дарогі, сцежкі. Там два гады таму, без слова развітання, пакінуў я сваю сям'ю. Што з імі? Ці жывуць? Ці чакаюць мяне? Як мяне сустрэнуць, як прымуць?

2 лістапада 1943 года каля дзесятай гадзіны раніцы ў раёне лясніцоўкі Войтаў Мост партызанская брыгада «У імя Радзімы» ўпершыню ўвайшла ў Белавежскую пушчу.

Янкоўскі выдаў загад на прывал. Змучаныя людзі адказваліся ад яды, лягалі спаць. Дзе хто хацеў. Неўзабаве на ўсім лагеры запанавала магільная цішыня. Не спалі толькі вартаўнікі.

Не прайшло і паўгадзіны, як на подступах да лагера затарахцелі ручныя кулямёты нашых пастоў. Пачалася густая страляніна. Людзі зрываліся, хапалі зброю. Ніхто не ведаў, што здарылася.

Янкоўскі, заўсёды стрыманы і спакойны, склікаў камандзіраў на нараду. З надыходзячых адгалоскаў страляніны можна было зрабіць вывад, што на лагер напаролася невялікая група немцаў. Відаць, не мелі яны кулямётаў, бо стралялі адзіночнымі выстраламі са звычайных карабінаў.

Камандзір брыгады так ацаніў становішча:

— Сувязныя пастоў паведамілі, што нямецкі атрад, які атакаваў нас, не ўяўляе сабою сур'ёзнай сілы. Нашы кулямёты прыціснулі фашыстаў да зямлі. Аднак становішча невыразнае. Тое, што немцы так хутка выкрылі наш лагер, сведчыць аб тым, што яны сачылі за рухам брыгады і чакалі нас тут. Пакуль што маем дачыненне з малою групай, але што будзе за гадзіну, дзве? Абсалютна не ведаем становішча ў пушчы, не ведаем сілы нямецкіх гарнізонаў. Можам трапіць у мяшок. Рызыкаваць нам нельга. Гэта прымушае нас, нягледзячы на стомленасць людзей, адыйсці з пушчы ў раён урочышча Тута-Міхалін. Адтуль, пасля дакладнага разведання, вернемся ў пушчу. Услухайцеся на хвіліну ў голас яе.

Толькі пасля гэтай увагі Янкоўскага я пачуў, як праз страляніну, якая не сціхала, прадзіраліся з розных бакоў далёкае выццё гудкоў і свіст паравозаў лясной чыгункі. Немцы паднялі ў пушчы трывогу.

Каб прыкрыць адыход брыгады, Янкоўскі кінуў у бой адзін атрад. Пачаўся сапраўдны бой, але не трываў ён доўга: немцы былі рассеяны і прымушаны да адступлення.

Брыгада рушыла назад, на ўсход. Задумоўваліся мы, што рабіць з нашай групай: ісці з брыгадай ці адлучыцца? Інжынер Леш адразу вырашыў адлучыцца і ісці на захад самастойна. Лічыў, што немцы будуць сачыць за брыгадай, пойдуць следам за ёй і не звернуць увагі на пяціасабовую групу. Папрасіў ён у Янкоўскага каня на багаж сваёй групы. Атрымаўшы каня, неўзабаве знік ён са сваімі людзьмі ў лясным масіве пушчы. Наша група, не хочучы дарма рызыкаваць, пайшла з брыгадай. Выйшаўшы на ўсходні бераг пушчы, дайшлі мы да вываду, што далейшае вандраванне з брыгадай — страта часу. Вывучылі карту, вызначылі азімут на вёску Пашуцкія Буды на заходнім баку пушчы, дзе значыўся адзіны на рацэ Лясная мост, і пайшлі напрасткі па компасу, мінаючы дарогі.

Як потым выявілася, Янкоўскі меў рацыю, прымаючы рашэнне адысці з пушчы на ўсход. Раней усе мы думалі, што Белавежская пушча будзе найлепшым сховішчам для партызанскіх атрадаў. У практыцы аказалася інакш.

Белавежская пушча, паводле планаў уладароў III рэйха, мела быць краінай паляванняў «паноў свету». Гітлераўцы ведалі, што раней ці пазней, у пушчы могуць узнікнуць партызанскія базы, з якіх партызаны могуць весці барацьбу ва ўсім ваяводстве. Таму камандуючы групы СС на сярэднім адрэзку фронту генерал СС Эрых фон Бах-Залеўскі выдаў загад спаліць або разабраць семдзесят дзве вёскі, размешчаныя навокал пушчы. Яго загад быў выкананы безлітасна. Толькі ў цяперашнім Гайнаўскім павеце былі сцёртыя з паверхні зямлі наступныя вёскі: Стачок, Гушчавіна, Плянта, Заброды, Забалотчына, Масева І, Масева ІІ, Альхоўка, Янава, Скупава, Міклашова, Свінароі, Пасталова, Скрыплева, Пераходы, Сарочая Ножка, Смольны Садок, Савіны Груд, Слабодка, Баб'я Гара, Тарнопаль, Семянкоўшчына, Пруты, Барывое, Пасекі, Бярнацкі Мост, Міхноўка, Ляшукі, Ахрымы, Капітаншчына, Цераміскі, Пагарэльцы, Буды, Крыніца, Ліпіны, Мінкоўка, Гродзіск. Разам трыццаць сем

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЭКСКУРСІІ ДЛЯ АБСАЛЬВЕНТАЎ

Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы ў сваёй дзейнасці шмат увагі звяртае на абсальвентаў калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Ідуць намаганні ў тым напрамку, каб з гэтых людзей былі добрыя гаспадары, якія належна выкарыстоўваюць атрыманыя веды ў павышэнні сельскагаспадарчай вытворчасці. З гэтай мэтай павятовае праўленне 11 абсальвентаў накіравала на сельскагаспадарчую практыку ў Быдгаскае ваяводства.

Для абсальвентаў калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў гэтым годзе былі арганізаваны тры цікавыя экскурсіі. Падчас першай экскурсіі абсальвенты ПР-аў пабывалі ў Ігнатках (у дзяржаўнай агародніцкай гаспадарцы) і на тэкстыльнай фабрыцы ў Беластоку.

Падчас другой экскурсіі ўдзельнікі яе былі ў сельскагаспадарчым музеі ў Цеханоўцу. Там жа мелі цікавае спатканне з журналістамі сельскагаспадарчых часопісаў «Пшыспособене рольнічэ» і «Трактор».

Асабліва многа ўражанняў абсальвенты ПР-аў атрымалі падчас трэцяй экскурсіі. Яны пабывалі ў цэнтрах сельскагаспадарчага прагрэсу ў Люблінскім і Жэшаўскім ваяводствах, пазнаёміліся з Навуковай працай Дзяржаўнай стадніны коней у Янове Падляшскім, пабывалі на фабрыках у Пулавах і Тарнове.

**Віталіс Назарук**
Гайнаўка

## АЛІМПІЯДА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ВЕДАЎ

Яна адбылася ў вёсцы Навасады (Гайнаўскі павет). Арганізатарам быў ПЗКР і Павятовае Праўленне ЗМВ у Гайнаўцы. У алімпіядзе прыймалі ўдзел вучні са школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі і калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Актыўны ўдзел узяла моладзь з Навасад, Рэпіскаў і Дубін.

Чэмпіёнам алімпіяды з'яўляецца Віталіс Аўласюк (Навасады), віцэ-чэмпіёнам — Эдуард Лапінскі (Скрыплёва), III месца — заняла Данута Гласко (Дубіны). Гэтая тройка апрача дыпломаў атрымала каштоўныя падарункі. 9 асоб атрымала ад ПЗКР гадавую падпіску на часопісы «Зажэве» і «Пшыспособене Рольнічэ».



**Тройка найлепшых на алімпіядзе.**
Тэкст і фота:
**Янка Цялушэцкі**

---

вёсак. Жыхарам іх дазволена было толькі ўзяць з сабою ежу на тры-чатыры дні і тое, што маглі надзець на сябе. Вось прыклады. Вёска Стачок. 28 ліпеня 1941 года ў тры гадзіны раніцы вёску акружылі эсэсаўцы. Кожнаму гаспадару ўручылі яны загад высялення разам з сям'ёю на працягу дзвюх гадзін. Жыхарам вёскі дазволена было забраць з сабою запас ежы на чатыры дні. Пад карай смерці забаранялася забіраць коней, кароў, свіней, а таксама сельскагаспадарчыя прылады. Пакінутую жыхарамі маёмасць гітлераўцы аграбілі, а вёску спалілі дашчэнту. Згарэлі дваццаць два жыллёвыя будынкі і сорак чатыры гаспадарчыя.

Вёска Плянта. Гітлераўцы спалілі ўсю вёску. Семдзесят пяць будынкаў. 17 жніўня на папялішчах вёскі быў застрэлены Павел Лупінскі, які не падпарадкаваўся гітлераўцам і вярнуўся ў вёску.

Некалькі дзён пазней была замардавана Хрысціна Федарук.

Вёска Масева. Пасля высялення жыхароў вёску спалілі: сто жыллёвых будынкаў і дзвесце дваццаць гаспадарчых. Пакінутая маёмасць аграблена гітлераўцамі.

І так у кожнай вёсцы.

Пушчу немцы акружылі кальцом вайсковых гарнізонаў. У самой Белавежы было асінае гняздо — паліцыйна-шпіёнскі цэнтр па барацьбе з рухам супраціўлення.

**Ян Анацік**

## ВЫКАРЫСТАНЫ БУДЫНАК

Будынак аборы колішняга сельгаскааператыва ў Дубічах Царкоўных цяпер выкарыстоўваецца мясцовым сельгасгуртком. Абора нядаўна была адрамантавана і палавіна яе плошчы прызначана на хлеў для расплодных авечак сельгасгуртка. Другая частка аборы — гэта часовы гараж для машын і прылад.

Нядаўна пачалося агароджванне пляца каля аборы драцяной сеткай. Працуюць тут рабочыя з Нарвы.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## ПЕРАБУДОВА ВУЛІЦ

У Паўночным Востраве, што на Сакольшчыне, перакладзена вуліца. Даўжыня вёскі каля паўтара кіламетра. Раней быў тут брук з такімі вялізнымі каменнямі, што цяжка было праехаць праз вёску. Брук гэты быў вывернуты і пракладзены новы.

Зараз ідзе таксама перакладка вуліцы ў Паўднёвым Востраве і будова мосціка каля Новага Вострава. Калі гэтыя работы будуць закончаны, праз гэтыя вёскі пойдзе ПКС. (мс)

## З'ЕЗД ПЦК У ГАЙНАЎЦЫ

9 кастрычніка г.г. у зале Дома Польскага чырвонага крыжа ў Гайнаўцы адбыўся з'езд Павятовага праўлення. На з'ездзе былі ўручаны адзнакі I, II і III ступеняў ПЦК. I-шай ступені залатыя адзнакі ПЦК атрымалі Грыша Анішчук і Янка Літвіновіч. II ступені — Яцэк Фурманэк, Люцыян Касінскі, Мечыслаў Карыткоўскі, Генрык Роек, Аляксандр Ігнатовіч, Янка Супрун, Уладзіслаў Лукасік, Богдан Маркоўскі, Петр Мілеўскі. Усе яны ганаровыя даўцы крыві.

ПЦК на Гайнаўшчыне налічвае 2569 членаў, аб'яднаных у 62 гуртках. Школьных гурткоў — 38 з лічбай 3903 членаў. Ад папярэдняга з'езда Павятовае праўленне арганізавала 478 гутарак на тэмы асабістай і масавай гігіены, санітарнай асветы сярод цыганскай моладзі і г.д.

На Гайнаўшчыне налічваецца больш 300 падпісчыкаў часопісаў ПЦК: «Чын млодзежы ПЦК» і «Здрове».

Прэзэсам гэтай арганізацыі зноў выбраны лекар — працаўнік Павятовай бальніцы ў Гайнаўцы Міраслаў Пазнаньскі, а сакратаром — Аўгустын Ваврэшук. Ц. Я.




**Дарагое Сэрцайка!**

Я жыву на вёсцы, але на працу даязджаю ў паблізкі гарадок. Са мною разам ездзіць дзяўчына, якую я вельмі пакахаў. Але не магу ёй аб гэтым сказаць, бо не ўмею, проста саромлюся. Мы працуем з ёю на адной рабоце ўжо пару год. Оля (так завецца дзяўчына), часта гаворыць на тэмы кахання, і тады я не ведаю, што адказваць. Мне трохі сорам, што я нашу акуляры, мо і гэта мяне робіць такім нясмелым. Хацеў бы з дзяўчынай паехаць матацыклам у лес ці куды-небудзь «на рандку», але не ведаю, як яе запрасіць.

Парай, Сэрцайка. За параду буду ўдзячны.

**Юрэк з Бельскага павета**

**Дарагі Юрэк!** Чаму зноў матацыклам у лес «на рандку»? Маеш рацыю, я таксама не ведала б, як сказаць аб гэтым дзяўчыне, як запрасіць. Працуеш з Оляй, даязджаеш штодзённа, ці не збрыдла табе ўжо гэтая язда? Раю табе лепш папрасіць Олю на каву ці ў кіно, ці проста на асеннюю прагулку пешшу. Цяпер прыгожы восеньскі настрой сярод дрэў у парку, у алеі і т.п. Напэўна, згодзіцца. Калі не ўмееш аб каханні гаварыць з Оляй так, як яна патрапіць, скажы ёй проста, што яна табе падабаецца, што кахаеш яе і папрасі яе, каб дала адказ.

А акуляраў няма чаго сароміцца. Многа людзей спецыяльна носяць цёмныя акуляры, каб прыгажэй выглядаць. Ніякія акуляры не псуюць выгляд чалавека, а дадаюць яму павагі, не гаворачы ўжо аб карысці для здароўя (зразумела, калі акуляры патрэбныя, прыпісаныя лекарам).

**Жадаю поспехаў**
**Сэрцайка.**

## СПАТКАННЕ З ЯНАМ АНАЦІКАМ



У папярэднім нумары «Нівы» мы пісалі аб тым, што з нагоды 25 гадавіны Войска Польскага палкоўнік Ян Анацік меў два спатканні: у беларускім ліцэі і Доме Настаўніка. Сёння змяшчаем здымак з сустрэчы ў беларускім ліцэі. Вучні ліцэя ўручаюць палкоўніку кветкі. Побач з Янам Анацікам — дырэктар ліцэя Аляксандр Іванюк.

фота **Я. Ц.**

## ЧЫТАЛЬНІЦКІ ТУРНІР

Нядаўна адбыўся ў клубе МПіК у Беластоку чытальніцкі турнір ЗМС. Удзельнікамі яго была моладзь з гурткоў ЗМС, якая працуе ў многіх прадпрыемствах Беласточчыны. Пісьмовы і вусны конкурсы датычылі выбраных тэм з сучаснай літаратуры.

На першае месца выйшаў Васіль Прыступюк з Гайнаўкі, II месца заняла Бажэна Андрушкевіч з ПЗГС у Аўгустове, III месца — Янка Лапінскі з Гайнаўкі.

Пераможцы атрымалі грашовыя ўзнагароды. Васіль Прыступюк выбраны прадстаўніком нашага ваяводства на цэнтральны агляд VI чытальніцкага турніра ЗМС у Варшаве.

Жадаем яму поспехаў. **Янцал**

## УРАДЖАІ ПАВЯЛІЧВАЮЦЦА

У апошніх гадах у грамадзе Мілейчыцы (Сямяціцкі павет) ёсць вялікія дасягненні ў павелічэнні ўраджайнасці палёў. У 1964 годзе ўраджай асноўных чатырох сельскагаспадарчых культур акрэсліваўся ў сярэднім па 14 цэнтнераў, а бульбы — 140 цэнтнераў. У гэтым годзе ў грамадзе Мілейчыцы ўраджай жыта, пшаніцы, ячменю і аўсу склаў 16,7 цэнтнера, а бульбы — 180 цэнтнераў.

У міжз'ездаўскі перыяд, дзякуючы выкарыстоўванню мінеральных угнаенняў, павялічыліся ўраджаі і на сенажацях. У 1964 годзе з аднаго гектара накошвалася 43 цэнтнеры сена, а ў гэтым годзе — 50 цэнтнераў.

**Міхась Вішанка**
Мілейчыцы

## У АРЭШКАВЕ

Нядаўна ў Арэшкаве (Гайнаўшчына) адкрыты грамадскі цэнтр культуры.



**Будынак ГОК-у**



**У клубе ГОК-у.** **Фота: Я. Ц.**

# КІНО

### БЕЛАСТОК

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Daleki ukochany" (radz.), 5—6. „Człowiek, który wątpi" (radz.), 7—8. „Dom na rozstajach" (radz.), 9—10.

**Дубіны**

„Tajemnica tajgi" (radz.), „Tajemnica zielonego boru" (radz.), 9—10.

**Нараўка**

„Zwyczajny faszyzm" (radz.), „Spotkanie na przeprawie" (radz.), 6—10.

**Нарва**

„Rok przestępny" (radz.), „Martwe dusze" (radz.), 6—10.

**Чыжы**

„Zwyczajny faszyzm" (radz.), „A jednak cię kocham" (radz.), „W kręgu podejrzeń" (radz.), 6—10.

**Дубічы Царкоўныя**

„Nieśmiały w akcji" (radz.), „Aktorka księcia pana" (radz.), 6—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Sąd" (radz.), „Protestuję" (radz.), 6—10.

**Орля**

„Porzucona" (radz.), „Pilot odrzutowców" (radz.), 6—10.

**Райск**

„A jednak cię kocham" (radz.), „Czekajcie na listy" (radz.), 6—10.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), „Tania i jej matki" (radz.), 5—7.

**Міхалова**

„Żenia, Żenieczka, Katiusza" (radz.), 5—6. „Zakochała się dziewczyna" (radz.), 7—8. „Berlin" (radz.), 9—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Koledzy" (radz.), 4—5. „Chłopcy z fantazją" (radz.), 6—7. „Kronika jednego dnia" (radz.), 8—9.

**Шудзялава**

„Mumu" (radz.), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 6—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Ambicja" (radz.), „Był sobie dziad i baba" (radz.), 6—10.

**Новы Двор**

„Na frontach wojny domowej" (radz.), „Samotna" (radz.), 9—10,

**Ліпск**

„Nikt nie zna prawdy" (radz.), „Klęska" (radz.), 6—10.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 6297

Пра гэта пісьмо я пачуў ад суседа. «Як табе вядома, — расказваў ён, — пераехаў я ў гэтую кватэру нядаўна. Да мяне тут жыла вельмі прыгожая дзяўчына. Ты не ведаеш. Пажыў я, значыць, тыдзень. Іду ранічкаю на працу — бачу, ляжыць у паштовай скрынцы пісьмо. Відома, я ўзрадаваўся: праўда ж, прыемна атрымаць пісьмо ад сябра, якога даўно не бачыў, ці ад бацькоў! Дастаў пісьмо і — расчараваўся. Яно было адрасавана той дзяўчыне. Паклаў я яго ў кішэню, а сам думаю: «Аднясу ёй пасля работы, узрадую». Пасля работы ўспомніў пра пісьмо. І, ведаеш, палянаваўся несці. Неяк ахвоты не было. Падумаў, што не меншая ёй радасць будзе, калі і заўтра аднясу.

Назаўтра з раніцы не мог да яе заскочыць, бо і сам ледзь на работу не спазніўся. А пасля работы не да пісьма было — стаміўся... Вось так цэлы тыдзень не выпадала аднесці. А калі пайшоў другі тыдзень, дык я і падумаў: «А мо і не сюрпрызам гэтае пісьмо

# ЧУЖОЕ ПІСЬМО

дзяўчыне будзе, а мо ў ім непрыемнае што напісана, і яна зусім не хацела б яго атрымаць, а мо які прайдзісвет ёй галаву круціць?» Тыдзень яшчэ прანасіў у кішэні. Не адважваўся несці. Пісьмо пакамячылася, бруднае зрабілася. А каму адрасавана — ўжо не разабраць, бо і літары сцерліся. І ўсё ж нешта мяне тачыла, што трэба аднесці — не мая справа, ці прыемнае яно, ці непрыемнае. Але падумалася і другое: сорамна ўжо несці такое пісьмо. Яна яшчэ спытае: «Чаго яно такое бруднае, дзе яно валялася?» А што ёй адкажаш? Не прызнацца ж, што ў маёй кішэні тры тыдні ляжала. І я вырашыў пераслаць яго поштаю. Ужо і за пяро ўзяўся. Але падумаў... Дзяўчына можа паскардзіцца самому міністру сувязі, што пісьмо недзе доўга валялася. Пачнуць правяраць. Паштальёну нагарыць за нясвоечасовую дастаўку, ды і мне можа... А нашто мне непрыемнасці чалавеку рабіць?

Думаў я, думаў, як пазбавіцца ад пісьма, і прыдумаў. Вырашыў, што ў пісьме гэтым, нутро мне падказвала, нешта непрыемнае напісана, бо каб было прыемнае, то абавязкова трапіла б яно адразу таму, каму трэба. Ну, а калі ў пісьме адны непрыемнасці, дык ці мог я, як чалавек добры, паднесці іх другому. Не, не мог я так зрабіць чалавеку, тым больш, такой прыгожай дзяўчыне. Вырашыў я зусім пазбавіцца гэтай непрыемнасці. Чыркнуў запалкаю... паднёс пісьмо... Якое там пісьмо... Шматок... Яно адразу схапілася агеньчыкам. І, ці ведаеце, — скончыў сусед, — адразу ад сэрца адлягло».

Змітро Бяспалы

# НІЎКА



— Вы часам не ведаеце, што сталася з малпамі, якіх мы завезлі сюды 30 тысяч год назад?

## ПРАЗ СОН

Ноччу прачнулася Аміля і кажа свайму мужу:

— Каруська, не магу заснуць.

— Як гэта не? — абураецца муж.

— Каруська, а купіш мне новае паліто?

— Куплю.

— І новы капялюш да паліто?

— Куплю.

— Які ты мілы, добры мой Каруська, — цешыцца Аміля.

— Не цешся яшчэ.

— А чаму?

— Бо я гутару з табою праз сон, — спакойна адказвае муж.

## ЛЕКАР НА СУСТРЭЧЫ



— Я так хвалявалася, што ты не прыйдзеш...

— Дзіўна, а пульс у цябе роўны.

## ДАКЛАДНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

Рыбалоў сустрэў таварыша і пытаецца:

— Што налавіў?

— З кілаграм акунёў.

— А вялікія ёсць?

— Адзін, кілаграма на паўтара.

## ЗАПЛАЦІЎ

Крытыкавала мыш ката І... засталася без хваста.

Ул. Захарэвіч

## СПРАБАВАЎ

— Вы эканаміст. Ці гутарыце з жонкай на гэтыя тэмы?

— Так, аднойчы спрабаваў. Потым павінен быў кінуць курыць.

## ПРАБАЧЦЕ

— Прабачце, — гаворыць кватарант да гаспадыні, — але ў гэтым месяцы я не магу вам заплаціць за кватэру...

— Памятаецца, што ў мінулым месяцы вы гаварылі мне тое ж самае!

— Дык хіба я не стрымаў слова?

## ПАСТАРАЎСЯ

— Кумок, прыйдзі папраў дзверы. Каты лазяць.

Кум як паправіў, сталі сабакі лазіць.

## ВЯРНУЛАСЯ

— Жонка ад вас пайшла, але не сумуйце — можа яна яшчэ вернецца...

— Як жа не сумаваць, калі яна ўжо вярнулася.



## НА ВУЛІЦЫ

Янка, спаткаўшы старчыху, кажа:

— Я ўжо раз казаў, што здаровым нічога не даю!

— Дык што гэта? Хочаш, каб я дзеля гэтых колькі грошай халеры дастала, ці што?

## НА ШТО

— Ваша жонка хворая. На што яна часцей за ўсё скардзіцца?

— На мяне, доктар.

## БЯДА

Сусед да суседа:

— Сёння я купіў жонцы да дня нараджэння бісерныя каралі.

— Але, як я ведаю, яна хацела мець легкавушку...

— Яно-то так. Аднак дзе ты бачыў, каб прадаваліся фальшывыя машыны?

## САМАЕ ВАЖНАЕ

У шатландскую футбольную каманду прыйшоў новы трэнер. Сабраў ігракоў і растлумачыў ім правілы гульні.

— У час гульні трэба ўважліваназіраць за праціўнікам. Аднак самае галоўнае — не спускаць вачэй з мяча. Ён каштуе два фунты стэрлінгаў.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Бэаты і Эвы Панасюк з вёскі Гозьна, Беластоцкага павета, Анатоля Паўлючука і Яна Харытанюка з Цялушак, Бельскага павета, змяшчаем песню п. з.

# PRZYJEDŹ, MAMO, NA PRZYSIĘGĘ

Muzyka: Henryk Klejne
Słowa: Edward Fiszer

I.

Przyjedź, mamo na przysięgę,
zaproszenie wysłał szef.
Syn Ci wyrósł na potęgę,
przyjedź, zobacz, twoja krew.
Mundur na mnie jak ulany,
tęsknią do mnie ładne panny
i czekają i wzdychają, och i ach,
a ja mamie, proszę mamy, biję w dach.

II.

Może będę na peronie
i przywitam mamę sam.
Albo spotkasz mnie w rejonie,
pewnie warta będzie tam.
Bo u bramy, proszę mamy,
stoi chłopak malowany.
Jego spytaj, broń nabita, pytać strach,
Lecz on mamie, proszę mamy, bije w dach.

III.

Służba Cię na obiad prosi,
kucharz dobrze o tym wie,
jakich miłych przyjmie gości.
Co nam poda, to się zje.
Kucharz daje wciąż to samo,
ale tremę ma przed mamą,
więc po zupie chciałby upiec nawet schab.
Kucharz mamie, proszę mamy, bije w dach.

IV.

Na przysiędze — trudna rada,
będzie sztandar, nie roń łez.
Niech Ci serce podpowiada,
Jaki żołnierz syn Twój jest.
Potem mamę cmoknę w rękę,
poprowadzę jak panienkę.
Czy wierzyłaś, czy marzyłaś o tym w snach?
Wojsko mamie, proszę mamy, bije w dach.

Przy-jedź ma-mo na przy-się-gę, za-pro-szenie wysłał szef. Syn ci wy-rósł na po-tę-gę, przyjedź, zo-bacz, two-ja krew. Syn ci zo-bacz, two-ja krew. Mun-dur na mnie jak u-la-ny, tę-sknią do mnie ładne pan-ny i czek-ają i wzdycha-ją, och i ach, a ja mamie, pro-szę mamy, bi-ję w dach.

Sztych. J. Ryczak



## Свелчыць кулак

Лідэр рэспубліканскай меншасці ў амерыканскім сенаце Эверст Дзірксен ударыў аднаго з наведвальнікаў, які прыйшоў да яго са скаргай на меры па сацыяльнаму забеспячэнню. Сам Дзірксен адмаўляе гэты факт. Як доказ невінаватасці сенатар прадэманстраваў свой кулак: «Ад майго ўдару, — пахваліўся высокапастаўлены член сената ЗША, — той плыў бы ўжо даўно ўніз па хвалях Патамака да Чэсапікскага заліва».

## Насустрач патрабаванням чытачоў



Штотыднёвік «Стар», які выходзіць у амерыканскім горадзе Пейк-Лейк, вызначаўся маленькім фарматам і адпаведным тыражом. Нядаўна часопіс пачаў выходзіць больш буйным фарматам. Гэту перамену рэдакцыя растлумачыла так: «Мы павялічылі фармат нашага штотыднёвіка, бо многія чытачы скардзіліся, што ранейшы быў недастатковы, каб загортваць бутэлькі з віскі».

## З дапамогай сабакі

Сентара Накаджыма з Токіо адкрыў у свайго сабакі Сачыказа надзвычайную здольнасць прадказваць лёс. Варта чацвераногаму задаць пытанне, як той пачынае брахаць. Накаджыма растлумачвае гэты брэх. Невядома, ці здзяйсняюцца прадказанні сабачага аракула, але тое, што цемрашал Сентара грэе на гэтым рукі, факт.



Калі яго не трымалі ногі, ён пачынаў хадзіць на галаве.